# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE

№ 18 (1157) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 30 КРАСАВІКА 1978 г. ЦАНА 60 гр.

ПОШУКІ І ЗДЗЯЙСНЕННІ

# ПРАБІЛІ АКНО Ў СВЕТ



Вядомы ва ўсёй ваколіцы гайнаўскі тартак або, як яго афіцыяльна называюць **Гайнаўскія прадпрыемствы драўнінай прамысловасці,** — гэта адзіны ў Еўропе камбінат з даведзенай да вяршынь магчымага комплекснай перапрацоўкай драўніны. Штогод каля 120 тысяч кубічных метраў сосен, елак, дубоў і іншых дрэваў з Белавежскай пушчы і навакольных лясоў пры невялікім дадатку спецыяльнай драўніны з афрыканскіх і блізкаўсходніх краін пад спраўнымі рукамі тутэйшых „драўніннікаў“ у самых навейшых і мудрагелістых машынах ператвараецца ў дзесяткі розных вырабаў, між іншым, ва ўзорыстую падлогавую мазаіку і бліскучыя паркеты, шыкоўныя панелі і іншыя камфартабельныя абліцоўкі сцен і, зразумела, у элегантную гайнаўскую мэблю.

Але аддайма голас **Аляксею Зіну** — галоўнаму праўтваральніку тартака. Ён — радавіты гайнаўчанін, яго бацька амаль усё сваё жыццё працаваў рабочым на гэтым жа прадпрыемстве. Таксама А. Зін 43 гады назад пачынаў тут свой працоўны шлях, з гэтага 15 год ён узначальвае камбінат.

— Фактычна, то мне не ўдалося здзейсніць маіх юнацкіх летуценныхမараў, я ж хацеў быць лекарам, — усміхаецца Зін. — Але можа так і лепш: бо як зробіш крывую дошку, гэта не такая ўжо і вялікая бяда, горш, калі нешта ў чалавечым арганізме скрывіш. Але ўсё ж з таго адлеглага часу асталося ва мне крыху схільнасцей да прыроды. Да вайны я закончыў гайнаўскую школу драўнінай прамысловасці. У ёй працавалі настаўнікі, закаханыя ў сваю прафесію і прадметы. Яны і заразілі мяне бакцылам пашаны не толькі да лесу наогул, але нават да кожнай галінкі. Я ж цвёрда засвоіў сабе ісціну, што дрэва можна рацыянальна спажыткаваць адно тады, калі і яго найтаўсцейшы камель і найтанчэйшае вецце перарабіць у адным месцы.



*— Цяпер „вялікі свет“ сам прыязджае ў нашу Гайнаўку, — заўважае дырэктар Аляксей Зін.*

Раман Дудэк з „Глосу працы“ ў 1959 г. правёў інтэрв'ю са мной. Я тады быў старшынёй рабочага савета і адначасова шэфам вытворчасці на нашым прадпрыемстве. Артыкулу ён даў загаловак — „Замах на ўладу ў Гайнаўцы“. У ім прадставіў выдуманую сітуацыю, быццам я заходжу да міністра лясніцтва і малюю перад ім карціну, чым у недалёкім будучым павінен стаць гайнаўскі тартак. Значыць, у ім патрэбна фабрыка абклеінфарніру, бо каштоўную драўніну з Белавежскай пушчы непатрэбна валочаць па ўсёй Польшчы і Еўропе, псуюць ды нішчаць пры гэтым, замест перарабіць яе тут, дзе людзі найлепш разумеюць дрэва. Затым у Гайнаўцы неабходна наладзіць вытворчасць павышанай якасці мазаікі для падлогі. Само сабой разумеецца, што тут месца і на вытворчасць драўнінных пліт, бо ёсць вельмі многа стружак, кавалачкаў і іншых адпадкаў. А калі ёсць дошкі, пліты, фарнір і іншыя драўнінныя вырабы, каб іх зноў не валачыць па свеце, значыць, у Гайнаўцы мусіць паўстаць фабрыка мэблі. Артыкул канчаўся тым, што ў міністэрстве быццам бы сказалі: „Ты хіба ж здурнеў, Зін, ці што?! То ж вытворчасць пліт належыць да аднаго прамысловага аб'яднання, а выраб мэблі — да другога!“ Зін жа ім на тое: „Ну і няхай сабе аб'яднанні розныя, але ўсё трэба рабіць у адным месцы“.

Ніводная справа, пра якую гаварылася ў тым артыкуле, не была пакінута па-за ўвагай. Каля тартака паўстала навейшая ў Еўропе фабрыка фарніраў.

(Працяг на стар. 4)

# СПАТКАННЕ З АКТЫВАМ

Сабраліся мы ў Бельскім доме культуры, каб пагаварыць аб нашых справах, аб працы ў беларускім асяроддзі бельскага раёна. І на гэтую важную для нас гутарку прыйшла толькі палавіна запрошаных. Некаторыя не прыйшлі таму, што пайшлі ў гэты дзень на нарады, больш для іх важныя, а некаторыя не прыбылі па той прычыне, што духоўныя сувязі з нашай арганізацыяй у іх аслабіліся. „Знечуліца існуе ў некаторых беларусаў, раней даволі актыўных, — гаварыў Уладзімір Раеўскі. — Перастае цікавіць іх наша дзейнасць“.

Ад „знечуліцы“ няма ў нас добрага лякарства. Мог бы ім быць усё вышэйшы ўзровень нашай культурнай працы, або і старыя, але значна больш эфектыўныя.

Сябра Раеўскі звярнуў увагу на дрэнны ход рэпетыцый хору, на тое, што не ўсе збіраюцца, што не хапае ўнутранай дысцыпліны ў некаторых яго членаў.

Неспрыяльным фактарам для актыўнай працы з'яўляецца тое, што няма свайго памяшкання. Раней было яно далёка ад цэнтра, і таму члены БГКТ мала туды заходзілі. А цяпер зусім няма куды зайсці. У доме культуры з'яўляемся мы на правах гасцей. „А госць добры тады, калі нячаста і ненадоўга прыходзіць“, — сцвярджала настаўніца беларускай мовы ліцэя Вера Рыщчук. Звярнула яна ўвагу на нейкую сарамлівасць у адносінах да беларускай праблематыкі, якая адчуваецца нават сярод некаторых настаўнікаў, асабліва ў пачатковых школах, на слабое пачуццё нацыянальнай годнасці сярод беларусаў, на тое, што мы не спажыткоўваем належна даных дзяржавай магчымасцей культурнай дзейнасці. А гэтая ж дзейнасць дае вялікую сатысфакцыю, калі да яе шчыра і з сэрцам адносішся. Прыкладам для многіх — га-

(Працяг на стар. 4)

# БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-78



*Софія Цацэрка з Баброўнік. У фінальным аглядзе заняла другое месца ў катэгорыі фальклорнай песні.*

*Фота М. Шаховіча.*

## ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

За апошні час наслухаўся я аб гэтай нейтронавай бомбе.

Думаў я, думаў і прыдумаў, каб напісаць пісьмо самому Картэру. То ж ад яго залежыць цяпер, ці будзе гэтая новая бомба, ці яе не будзе. Сачыняў я гэты ліст вельмі доўга, аж урэшце атрымалася вось так:

Паважаны Прэзідэнт ЗША Джымі Картэр!

# НЕ МАГУ МАЎЧАЦЬ

Мы асабіста незнаёмы, і таму, выбачай, калі ласка, што я дуру табе галаву. Праўда, я неаднойчы бачыў цябе на здымках у газетах і ў тэлевізійных перадачах з розных урачыстасцей. Адно аднак нас спалучае: абодва мы — людзі. Дык скажы мне па-людску, паважаны Прэзідэнт, чаму ты хочаш гэтай сваёй адмысловай бомбай забіць мяне — спакойнага, у нічым табе не вінаватага селяніна? Чаму? Чаму падобную долю рыхтуеш маёй старой жонцы, маім дзецям і ўнукам? Ці патрапіш, ці адважышся ўзяць на сваё прэзідэнцкае сумленне нашае жыццё і смерць?

Каб забіць чалавека, хопіць звычайнага каменя. А бомбаў — і на порах, і на атам, і яшчэ іншых — столькі ўжо накоплена ў арсеналах свету, што, кажуць, хопіць іх, каб некалькі дзесяткаў разоў угробіць кожнага з нас, кожнага жыхара Зямлі. Значыць, і цябе, паважаны Прэзідэнт, і тваю сям'ю. Дарэчы, табе гэта, мяркую, лепш ведаць, бо ў цябе лепшыя дарадчыкі і інфарматары.

Не разумею тады, чаму яны намагаюцца пераканаць і цябе, і ўсіх іншых на свеце, што гэтая нейтронавая бомба найбольш гуманная, бо знішчае толькі ўсё жывое, а астаўляе маёмасць. То я табе, Прэзідэнт, гавару па-мужыцку, што гэта звычайная хлусня! Няма гуманнай смерці. Нават самая гуманная, натуральная смерць, смерць ад старасці, калі паглядзець на яе зблізку, так ашарашвае чалавека, што пасля доўгі час з думкамі не пазбіраешся. Нездарма ж людзі даўным-даўно, каб неяк уявіць сабе смерць, прыдумалі пачварную кастуху. Толькі тады яшчэ не ведалі яны аніякіх бомбаў, нават тых звычайных, якія ў час апошняй сусветнай вайны ляцелі на нашы галовы, ад якіх загінула 40 мільёнаў людзей, ад якіх не сядзе да абеду кожны чацверты беларус і ад якіх не далічацца сярод жывых кожнага шостага паляка.

А ты, Прэзідэнт, чым хочаш узброіць гэтую кастуху? Чым? Сваімі нейтронавымі праменнямі?!

Я ведаю, Прэзідэнт, што свет цяпер перажывае ліхаманкавыя дрыготкі, бо дзе не павернешся, з усіх бакоў ляцяць весткі аб узброеных канфліктах, то там, то ў іншым месцы людзі безупынку страляюць адзін да другога, адзін другога палохае, аж млосна робіцца.

Дык навошта да ўсяго гэтага дакідаць яшчэ страх перад нейтронавай бомбай? Хто страхам корміць іншых, той і сам жыве коратка.

*Годзе, Прэзідэнт! Гэта табе гавару я, Максім Нурэцкі.*

Прачытаў я гэты ліст сваёй Палашцы.

— На ўсялякі выпадак, — кажа яна, — ты вазьмі і паспі сабе спакойна.

Спаць спакойна не буду, бо можа здарыцца, што нейкага дня зусім не прачнуся.

Трэба нам усім спалучыць свае галасы, каб зямля задрыжэла, каб ускалыхнулася сумленне ўсіх, хто хоча набіваць сабе кішэні золатам за прадукцыю гэтай бомбы.

**Максім Нурэцкі**

## ШТО НОВАГА?

### СЕНСАЦЫЯ Ў АНТАРКТЫДЗЕ

У снежні мінулага года мне давялося пабываць на амерыканскай антарктычнай станцыі Мак-Мерда і суседняй новазеландскай Скот. Ля ледавіка, які споўз з кантынента ў антарктычнае мора Роса, поўным ходам ішлі работы па правядзенню аднаго з самых цікавых за ўсю гісторыю асваення Антарктыды міжнародных навуковых праектаў. У ім прымалі ўдзел вучоныя Савецкага Саюза, ЗША, Аўстраліі, Новай Зеландыі і раду іншых краін.

— Мэта праекта, — сказаў мне навуковы кіраўнік Мак-Мерда Кен Молтан, — прабурыць у лёдзе шэльфа Роса (так называецца ледавік) свідравіну і з дапамогай спецыяльнага абсталявання і тэлекамер пранікнуць у падлёдную прастору для даследавання унікальных умоў, якія існуюць там тысячагоддзі пры нізкіх тэмпературах, без доступу паветра і святла. Адна з важнейшых задач — устанавіць, ці ёсць там жыццё, і калі ёсць, то якія яго формы і віды.

36 гадзін запар без сну і адпачынку працавалі даследчыкі ля свідравіны. Бралі пробы вады, грунту, замяралі тэмпературы, тут жа ў палявых умовах на марозе праводзілі аналізы. Новазеландскаму вучонаму Білу Уітлею ўдалося вывудзіць сканструяваннай ім самім сеткай некалькі ракавін з малюскамі і ўзоры прыдоннай расліннасці. Другія даследчыкі дасталі з-пад лёду дзіўных незнаёмых ракападобных светла-аранжавага колеру.

Першыя ўражанні ўдзельнікаў праекта будуць удакладнены і праверaны ў ходзе стараннага вывучэння здабытых узораў і атрыманых даных.

Але вучоных чакала новая радасць адкрыцця.

— Мы апусцілі прыборы, — расказвае кіраўнік савецкай групы І. Зоцікаў, — следам за нашымі амерыканскімі калегамі, якія праводзілі аналагічныя замеры тэмператур падлёднай вады. Як і ў іх, нашы прыборы рэгістравалі тэмпературу, блізкую да замярзання. Ужо здавалася, што нічога цікавага чакаць нельга, як раптам — стрэлка тэрмометра адхілілася ў станоўчы бок і спынілася — прыбор праходзіў слой цёплай вады! Яго таўшчыня складала 50 метраў, а суседняга з ім халоднага — 100 метраў. Усеагульнае здзіўленне было настолькі вялікае, што ў зробленае адкрыццё з цяжкасцю паверылі. Толькі паўторныя вымярэнні пераканалі скептыкаў.

Як гаворыцца ў тэлеграме савецкіх даследчыкаў, накіраванай у адрас Акадэміі навук СССР і Антарктычнага цэнтра ў Вашынгтоне, трэба меркаваць, што выяўленая розніца ў тэмпературах тлумачыцца наяўнасцю двух падлёдных марскіх супрацьцячэнняў: адно — цёплае — бярэ пачатак у адкрытым моры за сотні кіламетраў ад ледавіка, праходзячы пад ім, ахалоджваецца і ўтварае другое — халоднае, якое выцякае з яго. Такім чынам, цепла- і водаабмен пад ледавіком нечакана аказаўся акторыяй", здольнай праліць святло на нетолькі на ўмовы, якія існуюць пад тысячагадовым шэльфам Роса, але і яшчэ раз указвае на арганічную ўзаемасувязь Антарктыды з астатнім светам.

Паспяхова ажыццёўлены чарговы міжнародны праект пераканаўча паказвае, што Антарктыда працягвае заставацца важнай для чалавецтва „лабараторыяй", здольнай праліць святла на некаторыя таямніцы Сусвету.

**С. Зімін,**
**АДН.**

### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**160 гадоў назад**
5 V 1818 нар. Карл Маркс, заснавальнік навуковага камунізму, філасофіі дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізму.

**95 гадоў назад**
30 IV 1883 нар. Яраслаў Гашак, чэшскі пісьменнік, аўтар рамана „Прыгоды ўдалага ваяка Швейка ў сусветную вайну".
30 IV 1883 пам. Эдуард Манэ, французскі жывапісец, адзін з заснавальнікаў імпрэсіянізму.

**85 гадоў назад**
I V 1893 нар. Уладзіслаў Гібнер, дзеяч польскага рабочага руху.

**80 гадоў назад.**
1 V 1898 адбыліся першыя першамайскія дэманстрацыі ў Польшчы.



*Будучыя майстры: праз некалькі годзяны самі будуць такім жа чынам будаваць дамы.* *Фота У. Казлова.*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

## Мінскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум

— О, аказваецца, вы выхоўваеце не рабочых, а інтэлектуалістаў, — высока ўзняў бровы містэр Маклейн.

— Ну, гэта сказана залішне гучна і хораша. Але адно бясспрэчна: у нашай краіне жыве самы адукаваны рабочы клас на зямной кулі, — з годнасцю адказаў яго размоўца.

Ён, Аляксей Цітоў, мае поўнае права на такія словы. Ён — жывая гісторыя савецкай прафесіянальна-тэхнічнай адукацыі. Быў рабочым, потым майстрам, што вучыў будучых рабочых. І вось ён цяпер — заслужаны настаўнік Беларускай рэспублікі, дырэктар Мінскага індустрыяльна-педагагічнага тэхнікума, які рыхтуе настаўнікаў для будучых слесараў, сталяроў, тынкоўшчыкаў, маляроў, зваршчыкаў...

Гэта ж тут, у сценах гэтага тэхнікума, і адбывалася тая размова з англійскім спецыялістам, які прыехаў для знаёмства з савецкай сістэмай падрыхтоўкі рабочых кадраў.

Размова была доўгая: госць, па-майстэрску маскуючы сваё здзіўленне ўбачаным, тым не менш так і сыпаў пытаннямі.

Вучэбныя кабінеты з навейшымі прыладамі, электронна-вылічальнымі машынамі, кінаэкранамі, відэамагнітафонамі, тэлевізійнымі ўстаноўкамі... Дасканала абсталяваныя майстэрні... Усё гэта не выпала з-пад увагі ўважлівых вачэй чужаземца. Але галоўнае, што прыкавала яго ўвагу, было іншае — тое, як адчувае, як паводзіць сябе тут чалавек.

Напрыклад. У вучэбных кабінетах для выкладчыка абсталяваны спецыяльныя кафедры з пультам кіравання, адкуль ён пры дапамозе аўтаматычных прыстасаванняў можа, як аркестрам, „дырыжыраваць" адразу ўсім класам. Госць, чалавек практычны і прадпрыемлівы, вядома, заўважыў выгаду і мэтанакіраванасць такой арганізацыі ўрока. Але больш за ўсё яго здзівіла тое, як выкладчык адносіцца да вучняў. Як са сваёй раўнёй. То аднаго, то другога ён ставіць на сваё месца, на кафедру, і той самастойна выступае ў ролі педагога — правярае ў сваіх сяброў выкананне заданняў, спрабуе выказаць свой пункт гледжання на тое ці іншае пытанне.

„Наш вучань — будучы педагог. І значыць, мы ўжо цяпер павінны бачыць у ім свайго калегу", — так лічаць выкладчыкі.

Зразумела, іх будучым калегам пакуль што ўласцівы ўсялякія памылкі і промахі. Але ж яны — вучацца. І іх — вучаць. Тактоўна папраўляюць памылкі, па-сяброўску падтрымліваюць, калі малады чалавек спатыкаецца на сваім жыццёвым шляху. Ну, а калі ўжо здарыцца нешта незвычайнае, тут настаўнікам і суддзёй становіцца ўвесь калектыў тэхнікума. Тады дырэктар аб'яўляе пастраенне. Гэта значыць: у шарэнгі становяцца ўсе 740 вучняў, і перад імі вiноўнік адказвае.

Тут таксама, на агульным зборы, аб'яўляюцца і добрыя справы, самыя важныя дасягненні ў навуцы, грамадскіх справах, спорце...

Словам, сваё заданне тэхнікум бачыць у тым, каб даць краіне не проста высокакваліфікаванага працаўніка, але чалавека адукаванага, думаючага, свядомага, а галоўнай формай выхавання выбраны калектывізм. Іменна гэта і здзівіла больш за ўсё госця з Англіі. І не дзіўна: у яго радзіме адным з метадаў выхавання ў школах да сённяшняга дня астаюцца розгі.

Тэхнікум заканчвае пабудову інтэрната для сваіх вучняў. Дырэктар дабіўся, каб гэты інтэрнат быў на ўзроўні лепшых узораў такіх новых будоўляў (сам жа ён у сваёй маладосці жыў у бараках са сценкамі, напоўненымі пілавіннем, па 25 чалавек у пакойчыку). „Побыт, — пераканаўча даказвае ён, — гэта не меней важная справа, чым праца". І вось у новым інтэрнаце замест звычайных пакояў паявіліся бло-

**(Працяг на стар. 5)**

## ХРОНІКА

■ 9 IV — адбылася сустрэча актыву бельскага раёна са старшынёй ГП БГКТ М. Самоцікам.

■ Янка Крупа наглядае за падрыхтоўкай тэатральных калектываў да агляду, які адбудзецца ў маі. І так:

2 IV — Крупа наведаў гурток у Меляшках;

3 IV — адбыўся сход гуртка БГКТ у Тапарках і першая рэпетыцыя тэатральнага калектыву;

9 IV — Крупа ўдзельнічаў у рэпетыцыі калектыву ў Арэшкаве. (ал)



*Прыемнага святочнага адпачынку!*
**„Ніва"**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"**

**У віры існавання ● Спатканне з педагагічнай радай ● З бульбы грошы, з бульбы каша... ● Белавежскія сябры Савецкага Саюза ● Літаратурная старонка ● Дзядзька Максім крытыкуе начальніка ● Весткі са Старога Корніна, Гайнаўкі, Райска, Бельска, Дубіч Царкоўных, Нараўкі, Чаромхі, Тапчыкал, Тафілаўцаў ● Калі сніцца бландзінка ● З расказаў доктара Знахарука ● Песня „Gdy piosenka szła do wojska".**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 29 IV** — 6.00 TTR. Upr. roślin. 6.30 Hod. zwierz. 9.00 Dla kl. VIII Nauka o czł. 11.15 Koniec pieśni — fab. film bułg. 12.45 TTR. Hod. zwierz. 13.15 Mech. rol. 13.45 Red. szk. zap. 13.55 Pr. dnia. 14.00 Dziennik. 14.10 Obiektyw. 14.30 Radzimy rol. 14.40 Dla dzieci. 15.05 Spotkanie na antenie. 15.35 Radar. 15.50 Latarnia Czarnoksięska. 16.20 Kochankowie z Werony — fab. film fr. 18.10 Sport. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Mężczyzna, który mi się podoba — fab. film fr.-wł. 22.25 Dziennik. 22.40 Mała antologia kabaretu. 23.15 Supergang — fab. film USA.

**Niedziela 30 IV** — 6.25 TTR. Hod. zwierz. 7.05 Mech. rol. 7.35 Nasze spotkania. 7.55 Now. w domu i zagr. 8.20 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 U zarania dziejów — odc. V ser. wł. 11.45 Dziennik. 12.00 Rol. rozmowy. 12.30 Sport. 12.45 Tylko w Niedzielę.

**Poniedziałek 1 V** — 8.50 Pr. dnia. 8.55 Trans. Uroczyst. Pierwszomaj. w Krajach Soc. 9.55 Trans. Uroczyst. Pierwszomaj. w Warszawie. 13.30 Koncert Muzyki Pol. 14.00 Estrada folkloru. 14.30 Pr. estrad. 15.30 Jak to się robi — komedia pol. 16.30 Recital K. Danczewskiej i M. Nosowskiej-Pasławskiej. 17.05 Brygady Tygrysa — fr. film krym. 18.00 Spec. wydanie Studia 2. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. W. Perzyński: Uśmiech losu. 22.30—23.45 Studio 2 (cd.). — 23.00 Dziennik.

**Wtorek 2 V** — 9.00 Noce i dnie — odc. X ser. 10.00 Czerwone, żółte, ziel. 11.05 Dla kl. III lic. J. pol. 12.00 Dla kl. VIII Hist. 12.45 RTSS. Chem. 13.45 Biol. 14.45 Pr. dnia. 15.00 Klub Seniora. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Studio Mł. 17.10 Zgadnij kim jestem — teletur. 17.50 Majakowski w Warszawie — pr. publ. 18.20 Człowiek i przyroda — odc. ser. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Saga rodu Palliserów — odc. XVI ser. 21.30 Śledztwo zostało wznowione — pr. publ. 22.00 X Y Z cz. I. 22.30 Dziennik. 22.45 X Y Z cz. II.

**Środa 3 V** — 6.00 RTSS. Chem. 6.30 Biol. 9.00 Dla kl. VI Fiz. 11.05 Dla kl. VIII Fiz. 12.00 Dla kl. VII—VIII Wych. plast. 12.45 RTSS. J. pol. 13.25 Mat. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — naucz. pocz. 16.00 Dziennik. 16.20 Obiektyw. 16.30 Entliczek-słowniczek. 17.00 Spoza gór i rzek: Berliński finał. 17.30 Los. Małego Lot. 17.45 Pr. dla kobiet. 18.15 Kółko i krzyżyk. 18.35 Między nami jaskiniowcami. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Prawda — fr. dramat obycz. 22.40 Dziennik. 22.55 Komedia omyłek. 23.45 Pr. literacki.

**Czwartek 4 V** — 6.00 RTSS. J. pol. 6.30 Dla kl. VIII—I lic. Przysp. obr. 10.00 Dla kl. II lic. J. pol. 12.00 Dla kl. VIII J. pol. 12.30 Decyzje piętnastolatków. 13.00 RTSS. J. pol. 13.30 Mat. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Bilet do kina — pr. publ. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Ekran z Bratkiem. 17.55 Poligon. 18.25 Sonda. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Sierżant Anderson — odc. sens. ser. ameryk. 21.25 Pegaz. 22.10 Dziennik. 22.25 Hokej. Szwajcaria — ZSRR i CSRS — Kanada.

**Piątek 5 V** — 6.00 RTSS. J. pol. 6.30 Mat. 11.05 Dla kl. VII Wych. ob. 12.00 Dla kl. VIII Wych. ob. 12.45 TTR. Upr. rośl. 13.25 Mech. rol. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — ped. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Piątek z Pankracym. 17.00 Klub Dobrej Roboty. 17.25 Kryptonim Stella — odc. V bułg. ser. sens. 18.30 Magazyn motor. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Za metą start — dramat obycz. 21.45 Turnej UEFA. POLSKA — HISZPANIA. 22.30 Dziennik. 22.45 Estrada poetycka.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 28 IV** — 8.50 Hokej. Szwecja — USA. 3 terc. 9.35 Film fab. 18.15 Piosenka — 78.

**Sobota 29 IV** — 11.35 Koncert. 14.20 Film fab. 15.30 Nie do wiary. 16.30 Film anim. 18.55 Film fab. 22.50 Pr. estrad.

**Niedziela 30 IV** — 7.55 Koncert. 10.00 Film anim. 12.55 Spektakl. 15.20 Koncert życzeń. 16.00 Klub film. 18.00 Hokej. ZSRR — Finlandia. 20.45 Koncert. 21.30 Hokej. Kanada — USA.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).

## КІНО

**Białowieża** Światło — fr. 2—3. Dziewczyna z Hanoi — wiet. 4—5. Omen — ang. 6—7.

**Bielsk Podl.** Czarny korsarz — wł. 1—2. Dupont Lajcie — fr. 3—4. Wszyscy i nikt — pol. 5—6. Niewinne — wł. 7.

**Czeremcha** Agnieszka idzie na śmierć — wł. 1—2. Akcja „Salamandra" — rum. 3—4. Tajemnica — fr. 5—7.

**Czyże** Krótki sezon — wł. Robert i jego małpka — czes. 3—7.

**Dubicze Cerk.** Anna siostra Jany — czes. Wagon sypialny — jug. 3—7.

**Michałowo** Człowiek z marmuru — pol. 2—3. Pójdę z wami — radz. 4—5. Gang Olsena na szlaku — duń. 6—7.

**Mielnik** Kasztany miłości — wł. Doktor Francoise Gailland — fr. 6—7.

**Milejczyce** Wzgórze Zielengory — jug. Żeglarz znad Dunaju — węg. 3—7.

**Narewka** Miłość Adeli H. — fr. Po prostu żołnierz — radz. 3—7.

**Orla** Piraci na Pacyfiku — rum. Skarb na wyspie — rum. 3—7.

**Rajsk** Dziewczynka z Hanoi — wiet. Nie ma dymu bez ognia — fr. 3—7.

B.Z.Graf. Zam. nr 940 7.600 egz. N-4

ЛІТАРАТУРНЫ ПАЛЕТАК




Новая кніга **Аляксандра Амільяновіча „Занікаючыя адгалоскі“*)** хоць і выйшла тыражом у дваццаць тысяч экземпляраў, маментальна знікла з кнігарань, і той, хто крыху зазяваўся, сёння мусіць прымяніць не абы-які спрыт і мець значныя знаёмствы, каб здабыць гэты новы твор самага плённага беластоцкага пісьменніка. Як і ва ўсіх амаль дваццаці папярэдніх сваіх кнігах, А. Амільяновіч астаўся верны і сваёй любімай тэме змаганняў на Беласточчыне ў часе апошняй вайны, і свайму ранейшаму творчаму метаду.

У „Занікаючых адгалосках“ пісьменнік усё падпарадкаваў гістарычнай праўдзе. Нават разрозненыя падзеі паказаны ў кнізе ў строгай храналагічнай паслядоўнасці. Яна адкрываецца здарэннямі, якія мелі месца на польска-нямецкім пагранічны на Сувальшчыне ўлетку трагічнага 1939 года, а заканчваецца момантам, калі недзе перад жнівом 1954 года органы дзяржаўнай бяспекі злавілі „Чорнага“ — апошняга бандыта з рэакцыйнага падполля, што намагалася на працягу дзесяці пасляваенных год патапіць у крыві паўстаўшую ў Польшчы народную ўладу. Значыць, кніга ў суме ахоплівае перыяд пятнаццаці год, але на Беласточчыне за гэты час адбылося столькі падзей, што ён складае цэлую эпоху ў яе гісторыі. З соцень ці мо нават і тысяч вялікіх і малых здарэнняў А. Амільяновіч выбраў сорак шэсць вядучых, асноўных, і яны складаюць змест гэтага аб'ёмістага — у пяцьсот старонак друку — саліднага тома. На яго старонках мы разам з аўтарам шукаем і знаходзім зарослыя ўжо гонкім лесам месцы бітваў цэлых армій, забытыя патаемныя партызанскія сцежкі, загубленыя ў лясной гушчэчы безыменныя магілы змагароў, пакрытыя пылам доказы злачынстваў, учыненых гітлераўцамі і рэакцыйным падполлем, слухаем расказы непасрэдных сведкаў тых вогненных падзей, глядзім на фотакопіі арыгінальных дакументаў, здымкаў, лістаў. Такім чынам з-пад пяра А. Амільяновіча выйшла кніга-хроніка, кніга-дакумент пра тое, што адбылося на прасторах ад ракі Буга на поўдні да Аўгустоўска-Сувальскага паазер'я на поўначы, ад Белавежскай пушчы на ўсходзе і да Ломжы на захадзе.



*А. Амільяновіч у піянераў Салігорска (у час Дзён польскай літаратуры ў БССР у 1976 г.).*

Многія з гэтых падзеяў разыграліся ў беларускім асяроддзі. І так, напрыклад, раздзел „Затрыманы паход“ прысвечаны гераічнай абароне савецкімі пагранічнікамі ў чэрвені-ліпені 1941 года граніцы СССР на лініі Драгічын-Мельнік; „Хроніка крывавага батальёна“ — гэта ў асноўным дзённік-запісы аднаго з тых фашысцкіх злачынцаў, якія ў 1941 г. выселілі і спалілі дзесяткі вёсак вакол Белавежскай пушчы: „Райск“ — успаміны пра трагічную раніцу 16 чэрвеня 1942 года для гэтага вялікага сяла; „Карычневае павуцінне“ — гісторыя і вынікі супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі двух здраднікаў з Боцькаў; „Сям'я Касідлаў“ — трагічны лёс барацьбітоў з антыфашысцкага падполля ў Гайнаўцы; „Шлюбная пара“ — постаць сувязнога савецкіх партызанскіх атрадаў Казіміра Каздроя з Бранска, які загінуў ужо пасля вайны ад куляў рэакцыйнага падполля; „Камуністы“, „Зоркі сярод змроку“ і іншыя — пра барацьбу антыфашыстаў у горадзе Беластоку і яго ваколіцах; „Таварыш „Андрэй“, „Праваката́р „Караль“ і „Маці партызанаў“ — аб партызанскай сям'і Хшаноўскіх з Дзернякова каля Гарадка, „Партызан з Белавежскай пушчы“ — успаміны вядомага партызана з Дубін каля Гайнаўкі, нядаўна памёршага Рыгора Саевіча; „Бездарожжы кахання“ — пра дзіўныя лёсы бацькоў і дзяцей Талстых з Мінска на Беларусі і Астроўскіх з Плюцічаў на Беласточчыне; „Буры“ — крывавая расправа банды рэакцыйнага падполля з вёс-

(Працяг на стар. 4)

# З ТАПАНІМІІ БЕЛАВЕЖСКАЙ ПАЛЯНЫ

Не вязе Белавежскай пушчы на поўную распрацоўку яе тапаніміі. У міжваенны перыяд праф. Ян Ежы Карпінскі распачаў старанні ў гэтым напрамку, ды сваю працу закончыў на састаўленні спіска назваў урочышчаў і паданні іх месцазнаходжання. Ён дашукоўваўся прыняцця назваў некаторымі ўрочышчамі ад назваў звярыны, дрэў, кустоў і зельных раслінаў. На карце пушчы засталася вялікая белая пляма. Некаторыя спробы, каб яе запоўніць, рабіў Оттан Гедэман, але перашкодзіла яго смерць. Ужо пасля вайны, у 1974 г., выйшла з друку праца Міхала Кандрацюка „Мясцовыя назвы паўднёва-ўсходняй Беласточчыны“, у якой можам знайсці радаслоўе назваў некалькіх пушчанскіх пасяленняў; яна, аднак, не вырашае цалкам справу.

Хочучы хаця б крыху паменшыць белую пляму на тапанімічнай карце пушчы, пастанавіў я параспытваць у гэтай справе сярод старэйшых жыхароў Белавежы. Інфармацыі, якія ніжэй прывяду, датычаць Белавежскай паляны (размяшчэнне ўсіх урочышчаў і палеткаў падае карта Белавежскай пушчы, выдадзеная ў 1973 г.) і паходзяць ад Сцяпана і Вольгі Байко, Юльюша Мінюка, Уладзіміра Гвая і А. Б. (не хацеў, каб падаваць яго прозвішча).

**Стачок** — сяло, раён Белавежы. У XIX ст. налічваў некалькі дзесяткаў дамоў і размяшчаўся на ўзгорку, паміж сённяшнімі Завулкамі № 1 і № 2. Праз яго прабягала дарога ў Свіслач. Назва паходзіць ад таго, што сяло ляжала на „стоку“ (скаце) да ракі Нараўка, якая ў свой час мела вельмі кручанае рэчышча і падыходзіла амаль пад самае сяло. Стачок ляжаў на тэрыторыі басейна ракі.

**Аселіца** — луг паміж ракой і Стачком. Назва паўстала ад таго, што луг ляжаў пры сяле, побач з пасяленнем.

**Крапіўнік** — даўнейшы пасёлак за сялом Застава. Назва ўзялася ад крапівы, якая тут густа расла перад тым, як былі пабудаваны дамы (было іх тут 19). Дамы гэтыя спалілі падчас II вайны немцы разам з Заставай. Сёння тут стаіць толькі адна хата, збудаваная мясцовым жыхаром.

**Кнігіняўка** — падмоклы лес, які размяшчаецца зараз жа за Крапіўнікам. Урочышча гэтае памылкова памечана на даваеннай і сучаснай картах як Князеўка. Такой назвы ніхто з мясцовых жыхароў не ўжываў і не ўжывае. Яна паявілася ў выніку памылковага выводжвання яе О. Гедэманам ад названня князь. Сапраўдная ж назва выводзіцца ад птушак кнігавак, якія тут мелі сваё найбольшае прыстанішча. Кнігіняўка калісьці была месцам такім балоцістым і мокрым, што ніхто не мог праз яе прайсці.

**Млыновае** — палетак на поўнач ад сяла Стачок. Назва паходзіць ад млына Несцера Бушко, які тут стаяў да 1914 г. У 1914 г. яго купіў і перанёс у Хвалова Гвай.

**Бугаёвэ** — луг на поўнач ад Дырэкцыйнага парку. Месца, якое было выдзелена калісьці аднаму з жыхароў на пашу для гадавання ім бугая.

**Сварлівае** — ворны палетак на паўночна-ўсходнім баку паляны. Палосы тут былі вельмі вузкія і часта сусед суседу пераараў мяжу, што заўжды выклікала сварку. Таму і Сварлівае.

**Плакса** — ворны палетак на поўнач ад спартыўнага стадыёна. Месца тут было вельмі камяністае. Аканом за паламанне сахі ратаем караў яго нагайкай. Таму і плакалі тут людзі.

**Грамадне** — ворны палетак, які складаўся з малых кускоў зямлі — наддаткаў. У гэтым месцы заўжды было відаць многа людзей, ад таго і паўстала назва Грамадне — гэта значыць працуюць у грамадзе, грамадой.

**Рыгорава дарога** — польная дарога. Назву ўзяла ад таго, што выходзіла на дом Рыгора Валкавыцкага, які быў солтысам.

**Упраўленскі выруб** — поле на месцы

(Працяг на стар. 4)

# ПРЭРЫЯ НАД РАКОЮ НАРВАЙ?

Так! Была ды яшчэ якая! Тады, як мы вярнуліся пасля першай сусветнай вайны з бежанцаў, з Расіі. Трава ў той час па ўсёй даліне ракі Нарвы расла такая высокая, што ўвесь дарослы чалавек, нават з канём, хаваўся ў ёй. Людзей па вёсках яшчэ мала было — усе па свеце валэндаліся. Трава над ракою пяць год не касілася. Траву тую звалі мякухай. Еду, бывала, па-над берагам ракі вярхом на кані па мякусе, а відаць толькі мая ды конская галовы. А як уб'юся ў траву-разуху, то і зусім нічога не відаць. Здаецца, што гэта не луг, а травяны лес.

Памятаю, аднойчы вечарам не вярнулася з пашы наша карова. Пайшлі мы з бацькам шукаць яе. Узыдзем у тэтай травяной гушчэры на грудок, бацька паставіць мяне сабе на плечы, і я адтуль выглядаю карову. Доўга мы так блыталіся, пакуль у адным месцы я не звочыў, што вяршкі травы неяк дзіўна кальшуцца. І жах мяне агарнуў: „Мо там які-небудзь разбойнік нашу кароўку зарэзаў, ды цяпер скуру з яе лупіць?“. Мы з бацькам памаленьку, асцярожна прабраліся туды, глядзім: а гэта наша кароўка пасецца! Жывая і цэлая...

У той наднараўскай травяной чашчобе не адзін раз людзі з усім сваім дабром ды дабыткам хаваліся, калі ў гэтыя бакі які-небудзь фронт набліжаўся або так якое войска паказалася.

Потым у навакольныя вёскі ўсё больш людзей з бежанцаў вярталася. Пачалі яны брацца за работу, а зямлю вясною ад посухі агнём ачышчаць. Як запаляць яе недзе пад мястэчкам Нарвай, то і ўдзень і ўначы плыве шырокай далінай вогненная рака ўніз, аж у бок Страблі. І пільнавалі яе людзі па ўсіх сёлах, каб часам полымя на стрэхі будынкаў не перакінулася. А вёску Цялушкі не было каму пільнаваць, бо мала хто туды вярнуўся з бежанцаў, вось і пайшла яна тады з дымам.

Так то было яно з той прэрыяй над ракою Нарвай...

**М. Матвеюк**

АЛІМПІЙЦЫ БЕЛЛІЦЭЯ

# Зося Аверчук і Янка Федарчук

Ёсць іх двое — Зося Аверчук і Янка Федарчук. Зося вучыцца ў IVд. Першыя парасткі зацікаўлення гісторыяй узышлі ў пачатковай школе, якую канчала ў Ляневе, што ў Чыжоўскай гміне. Ужо тады яе ўвагу пачалі прыцягваць розныя гістарычныя падзеі.

— Гісторыя мае ў сабе нейкую магнітную таямнічасць, якая безупынна прыцягвае чалавечую ўвагу. Безупынна ставіш сабе пытанне, чаму гэта было так, а не інакш, чым пры гэтым кіраваліся? Гэта не толькі вызуброўванне фактаў, дат, але і пазнаванне псіхікі тых часоў, — гаворыць Зося.

Потым ліцэй. Чытанне шматлікіх гістарычных кніг, настаўніца гісторыі Таіса Бялецкая, якая на сваіх цікавых уроках патрапіла яшчэ больш разбудзіць зацікаўленні, пасеяць яшчэ большую цягу да гэтага прадмета. І так дайшло да алімпіяды. Алімпіяда, як заявіла Зося Аверчук, дала ёй многа. Яшчэ больш паверыла яна ў свае сілы, якія мела магчымасць параўнаць з сіламі другіх вучняў. Ну і найважнейшае гэта мара кожнага вучня — каб атрымаць вольны праход у вышэйшую школу. Яе мара: юрыдычны факультэт у Гданьскім універсітэце.

Янка Федарчук, вучань IVц класа пачаў цікавіцца гісторыяй яшчэ ў VII класе пачатковай школы, якую закончыў у Нурцы. Дапамог яму ў гэтым настаўнік гісторыі Аляксандр Каршак. Будучы ў пачатковай школе Янка марыў, каб паступіць у Бельскі беларускі ліцэй. Ведаў, што дзякуючы свайму высокаму ўзроўню навучання адкрывае ён дарогу ў шырокі свет. Вучоба ў ліцэі дала яму святло на некаторыя справы, якіх не мог поўнасцю зразумець як вучань пачатковай школы. Рашыў прыняць удзел у алімпіядзе. Дзякуючы настаўніцы Таісе Бялецкай, яе дапамозе і заахвочваннем, апынуўся сярод лаўрэатаў.

— Алімпіяда дала мне шмат. Перш за ўсё паказала, як выглядаюць экзамены, якіх перада мной яшчэ шмат — матура, семестральныя, магістэрскія. І другая справа: намнога-многа пашырыла мае веды. І за гэта я ўдзячны перш за ўсё маёй настаўніцы Т. Бялецкай.

Перад Янкам яшчэ матура, якая адкрые дарогу ў свет. Хоча ён паступіць на карнае права ў Люблінскі універсітэт.

Зося Аверчук і Янка Федарчук — гэта не толькі гісторыкі. Гісторыя з'яўляецца іх факелам, які асвятляе дарогу. Знаходзяцца яны таксама сярод найлепшых вучняў школы і па іншых прадметах. Застаецца пажадаць ім паспяховага здання матуры і ўдач на новай дарозе.

**Міхась Шаховіч**
Фота аўтара



*Настаўніца гісторыі Таіса Бялецкая са сваімі алімпійцамі.*

(Працяг са стар. 1)

# ТРАБІЛІ АКНО Ў СВЕТ

Непадалёк вырасла прадпрыемства па вырабу мазаікавай падлогі. Гэта найвейшы шык у будаўніцтве. Яны — вынік працы нашых рацыяналізатараў: доктара Паскробкі, сяброў Комяня, Сагайдака, ёсць у іх і мой уласны ўклад. Пабудавана фабрыка пліт — адзінае ў Польшчы такое прадпрыемства пры тартаку; яна працуе на нашых жа драўнінных адпадках. Ну і паўстала мэблевая фабрыка. Вакол яе было найбольш спрэчак, бо большасць бы мэбля — гэта самастойная прамысловасць, яна патрабуе доўгіх і багатых мясцовых традыцый і таму падобнае. Але напеpакор усім боязям ды карканням нашыя гарнітуры „Гайнаўка“ і „Пушча“, як вядома, карыстаюцца вялікай папулярнасцю і попытам. І не толькі на Беласточчыне, але якраз у тых рэгіёнах Польшчы, дзе мэблевыя традыцыі найстарэйшыя і найбольш мэблевых фабрык. І гэта не выпадкова: нашыя вырабы самай высокай якасці, яны маюць па ўсёй польскай мэблевай прамысловасці найменшую колькасць скаргаў і заўвагаў.

— Што ж, удалося вам...

Найважнейшае, што мне ўдалося, гэта прывіць людзям у Гайнаўцы ўлюбёнасць да працы ў драўніннай прамысловасці. Я маю на ўвазе таксама і тых, хто працуе разам са мной, а часта і выручае мяне. Возьмем, для прыкладу, доктара тэхнічных навук Паскробку. Ім мог бы ганарыцца кожны навукова-даследны інстытут у Польшчы як найлепшым у Еўропе спецыялістам па сушэнню драўніны. Ён узначальвае нашу лабараторыю. Наш галоўны механік Рышчук раней працаваў на навейшым прадпрыемстве „Дэльфа“ ў Жэшове і часта выязджаў за граніцу ў навуковыя камандзіроўкі. Ён таксама выбраў сабе Гайнаўку. Такія прыклады можна было б множыць. І яшчэ. Калі нам нешта ўдалося, то хіба ж адчыніць акно ў свет. Калісьці мы заглядалі ў яго стоячы на дыбачках. І часам у Варшаве смяяліся з нас: „Ну, што ж тая ваша Гайнаўка значыць? Гэта ж усяго толькі мізэрная кропачка на карце Польшчы!..“ А мы дабіліся таго, што цяпер той „вялікі свет“ сам прыязджае да нас у Гайнаўку. Наведалі нас экспарцёры драўніны з розных краін зямной кулі, пасля ад іх пачалі прыходзіць лісты, дзе выказваліся захапленні парадкам, арганізацыяй і рацыянальнасцю вытворчасці на нашым прадпрыемстве. Група заходнегерманскіх бізнесменаў, пасля азнаямлення з нашым камбінатам, заўважыла, што хоць Германія і лічыцца айчынай драўніннай прамысловасці, але яны жадалі б мець такія фабрыкі, як у Гайнаўцы. У бягучым годзе Арганізацыя Аб'яднаных Нацый праводзіць спецыяльнае азнаямленне з драўніннай прамысловасцю на свеце, яе дэлегацыя наведае таксама наша прадпрыемства. Гэта толькі некалькі з дзесяткаў падобных фактаў. Аказваецца, каб прабіць сабе акно ў свет, трэба гэта рабіць шырокім фронтам, шматпланава. Возьмем хоць бы такую, здавалася б, адлеглую ад прамысловасці справу, як разьба ў дрэве. Ужо 11 год наша прадпрыемства рэгулярна праводзіць пленеры ў гэтай галіне мастацтва, у ім удзельнічаюць мастакі сусветнай славы з розных кантынентаў. Гэта вельмі спрые папулярызацыі нашага горада на свеце. У Гайнаўцы адбываюцца агульнапольскія сімпозіумы і папулярна-навуковыя сесіі, прысвечаныя справам сушэння драўніны. Тут таксама выходзіў часопіс „Глос джэвяжа“, адрасаваны для сярэдняга тэхнічнага персанала ўсяе Польшчы. Немалаважную ролю адыгрывае і тое, што ў нас добра пастаўлены самадзейны мастацкі рух, дзейнічае нядрэнная спартыўная каманда і г.д. Ну і людзі цяпер ужо ўсюды ведаюць, дзе знаходзіцца наша Гайнаўка. Не адрасуюць лістаў: „Гайнаўка каля Белавежы“. Наш горад мае сваё добрае імя.

Размаўляў **Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

**Кажуць, што...**

*Пасля вялікага выйгрышу ў „Таталотак“ лік сапраўдных сяброў у інжынера Задрыпкоўскага павялічыўся да 100.*

(Працяг са стар. 1)

# СПАТКАННЕ З АКТЫВАМ

варыла яна, — можа быць пастава і заангажаванасць у дзейнасць БГКТ Анатоля Мартыновіча з Орлі. Напомніла Вера Рышчук, як у мінулым школьнікі рыхтаваліся да дэкламатарскіх конкурсаў, якія праходзілі цікава, а пасля расказала, як моладзь перажывае, як развівае свае здольнасці, калі бярэ ўдзел у мастацкай самадзейнасці. Цяпер пад яе кіраўніцтвам драматычны калектыў рыхтуе пастаноўку Івана Шамякіна „Не верце цішыні“. З ёю ён будзе выступаць у аглядзе ў ГП БГКТ, а таксама паедзе на вясковыя сцэны.

Каб прывіваць зацікаўленне беларускай праблематыкай, неабходная цяснейшая сувязь ГП з пачатковымі школамі, з дырэкцыяй гмінных школ. На гэта звярнуў увагу Анатоль Мартыновіч. Запрапанаваў ён, каб ГП БГКТ для найлепшых вучняў па беларускай мове арганізоўвала экскурсіі, каб у ГП час ад часу для іх падрыхтоўваліся спецыяльныя спатканні і мерапрыемствы, каб у іх асталіся глыбокія пачуцці пашаны да сваёй роднай мовы, культуры. Неабходна ў гэтым напрамку працаваць і з дарослай моладдзю.

Прыемна чуць, што бельскія актывісты БГКТ добра разумеюць ролю і заданні Беларускага таварыства, што многія з іх у працу БГКТ укладваюць шмат свайго сэрца, разумеюць, што толькі сіламі нашага актыву, іх аўтарытэтам і адказнасцю можна ўзняць на вышэйшы ўзровень дзейнасць БГКТ.

На выхаванне падрастаючага пакалення заўсёды мае вялікі ўплыў школа, асабліва тады, калі ў яе высокі навучальны ўзровень. Дырэктар беларускага ліцэя Аляксей Карпюк, як сам гэта сцвярджае, высокаму навучальнаму ўзроўню ліцэя прысвячае найбольш увагі. Ён таксама выязджае даволі многа ў падставовыя школы ў восьмыя класы і заахвочвае вучняў паступаць у Бельскі беларускі ліцэй. У размове з настаўнікамі паасобных школ, у якіх цяпер не навучаецца беларуская мова, выразна адчуваецца, што ім неабходная дапамога, каб зноў увесці беларускую мову як прадмет. „Трэба, — гаварыў сябра Карпюк, — паехаць пагаварыць з дзецьмі, бацькамі, з настаўнікамі, завесці групу самадзейнікаў, якія выступілі б з беларускім рэпертуарам, трэба заахвочваючы даказаць, якое значэнне мае навучанне роднай мовы.

Хваля адмовы ад навучання роднай мовы ўжо мінула. Гаварыў аб гэтым падінспектар асветы, член прэзідыума ГП БГКТ Сцяпан Трафімюк. Гаварыў ён і аб тым, што ўзрос узровень жыхароў вёсак і мястэчак, і таму кожнае мерапрыемства, арганізаванае Беларускім таварыствам, павінна быць добра падрыхтавана.

Удзельнікі сустрэчы ў сваіх выступленнях прысвяцілі шмат увагі асветным справам, але таксама закраналі тыя пытанні, якія старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік паставіў у ўступным слове ў пачатку нарады. А датычылі яны наступнага: абмяркаваць, дзе найлепш арганізаваць народны фэстын БГКТ, прысвечаны 60-ай гадавіне Беларусі, правесці справаздачныя сходы ў гуртках БГКТ, звяртаючы асаблівую ўвагу на разбудову арганізацыі, выехаць харавому калектыву БГКТ „Васілёчкі“ з канцэртам у Мілейчыцы на святкаванне Дня перамогі.

**М. Хмялеўскі**

(Працяг са стар. 3)

# З ТАПАНІМІІ БЕЛАВЕЖСКАЙ ПАЛЯНЫ

вырубкі лесу, якое знаходзілася насупраць месцазнаходжання ўпраўлення пушчы. Да поля гэтага вядзе „Упраўленская дарога“.

**Барок** — пасёлак пры дарозе Мастовой. Даўней рос тут невялічкі бор. Адгэтуль і назва.

**Будкі** — месца ля выхаду вуліцы Польнай. Калісьці стаялі тут вайсковыя палаткі, названыя мясцовым насельніцтвам проста „будкамі“.

**Зладзеюўка** — пасёлак ля Цэнтуры; быццам кожны з яго жыхароў у міжваенны перыяд быў злодзеем.

**Вайцехуўка** — вуліца там жа; быццам жыў тут адзіны чалавек імем Войцех, які не краў; у яго гонар і назвалі вуліцу.

І вось усё, што мне ўдалося даведацца. Уласна кажучы, жыхары Белавежы растлумачвалі мне яшчэ, адкуль узяліся такія назвы, як Падаляны, Застава, Крыжы і інш. ды я знарок памінуў іх у гэтым артыкуле, таму што пісаў ужо аб іх М. Кандрацюк у сваёй кніжцы.

На жаль, ёсць яшчэ многа назваў, якія трэба было б растлумачыць. І на тэрыторыі Белавежскай паляны, і ў самой пушчы. Таму маю просьбу да чытачоў „Нівы“, асабліва з Белавежы. Калі ведаеце, ад чаго паўсталі якія-небудзь назвы, пішыце ў „Ніву“ або звяртайцеся проста да ніжэй падпісанага (Белавежа, вул. Вашкевіча 68). Пакуль ёсць яшчэ час дапоўніць тапанімію Белавежы, варта зрабіць гэта!

**Пётр Байко**



*Фрагмент сяла Стачок.* *Фота аўтара.*

(Працяг са стар. 3)

# КНІГА — ДАКУМЕНТ

камі Шпакі і Зані на Бельшчыне і інш. У кнізе таксама многа месца адведзена польскаму руху супраціўлення, супрацоўніцтву польскіх і савецкіх партызанаў на Сувальшчыне, савецкім салдатам і афіцэрам — вызваліцелям Беластоцкай зямлі.

Ва ўсёй кнізе адчуваецца значны журналісцкі вопыт, здабыты А. Амільяновічам спачатку ў нашай „Ніве“, а потым у „Газеце беластоцкай“. Ён вельмі ўдала выкарыстаў тут метад рэпартажа-нарыса. Не імкнецца даваць волі сваёй творчай фантазіі ў прадстаўленні тае ці іншай сітуацыі, у стварэнні мастацкага вобраза, хоць да гэтага ёсць вельмі заахвочваючая нагода. Якраз наадварот, пісьменнік зводзіць да самага неабходнага мінімума свой аўтарскі каментарый, пазбягае дэталёвага апісальніцтва абмяжоўваецца ў сваім слове да кароценькай падачы найважнейшых паясненняў, каб такім чынам даць прастору арыгінальным успамінам, дакументам, здымкам. Вымова гэтых фактаў патрасае да глыбінь душы. І таму кніга „Занікаючыя адгалоскі“ ў праве называцца кнігай гістарычных рэпартажаў, якія выратавалі ад забыцця і перадалі новым пакаленням жыхароў Беласточчыны з дакументальнай праўдзівасцю вобразы той, на шчасце адышоўшай назаўсёды, грознай эпохі. А яе тхненне адчуваецца ў кожным радку гэтай шчырай і з даравітасцю напісанай кнігі.

**Мікалай Гайдук**

*) Aleksander Omiljanowicz, Zanikające echa, MON, Warszawa 1977, s. 514, cena 55 zł.

**Беларуская літаратура** — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЧАСТКА XXVI

**Ваенныя вершы.** Змітрок Бядуля належаў да тых пісьменнікаў, якія прысвяцілі значную ўвагу падзеям, звязаным з першай сусветнай вайной. У яго спадчыне знаходзім вялікую колькасць вершаў, ілюструючых розныя аспекты ваеннай рэчаіснасці. Да такіх вершаў належаць: „Ад крыві чырвонай“, „Не мы...“, „Брат з сястрою“, „І будзе на палях трывожная работа“, „Арліхі“, „...І сотнямі тысяч...“, „То не хаты, а курганы...“, „Сухавеі“, „Ты слязамі і крыжамі...“.

Ва ўсіх вершах праяўляецца акрэсленая і выразная ідэя аўтара. Пісьменнік рашуча асуджае вайну, не бачыць у ёй найменшага сэнсу. У яго вершах не праяўляецца які-колечы „патрыятызм“. Ні разу не ўжывае паняцці „мы“ ці „яны“, а калі гаворыць аб „сваіх“ або „ворагах“, дык прыпісвае ім тыя самыя злачынствы. Для аўтара вайна мае жудасны, антычалавечы характар, і таму ён залічвае яе да з'яў варожых і шкодных і для тых, хто застаўся ў хатах, і для тых, хто прымушаны быў пайсці ў армію.

У вершах Бядулі не знаходзім нават следу той атмасферы, якая выступіла ў некаторых ваенных вершах Ясеніна. Рускі паэт з захапленнем маляваў бадзёрых і поўных вайсковага энтузіязму навабранцаў. У Бядулі наогул не выступаюць паасобныя індывідуальныя героі. Дамінуе тут безыменная маса, якую фаталізм або пануючыя гэтага свету кіруюць на ўбой. Паэт атоесамліваецца з тымі, хто прымушаны ўдзельнічаць у жудасным, крывавым ігрышчы:

*Не мы выпівакі*
*На гэтым на балі,*
*Не мы граем вальсы*
*На жудкіх цымбалах,*
*Не мы захацелі*
*Крывавай забавы, —*
*А дзікая зграя.*

Акрэсленне „дзікая зграя“ мае выразны палітычны і грамадскі адрас. Пісьменнік мае на думцы кіруючыя краінамі сілы, для якіх жыццё тысяч людзей не мае ніякай вартасці.

Паэт становіцца ў позу народнай плачкі, якая лямантуе над „сотнямі тысяч ратаяў“, загінуўшых на палях вайны. Гаворыць ён аб роспачы пакінутых бацькоў. Страшэнны парадокс вайны праяўляецца і ў тым, што робіць яна сіратамі не толькі дзяцей, але і бацькоў, сыны якіх загінулі ў баях.

Некаторыя вершы Бядулі піша у стылі народных балад. Прыкладам можа быць верш „Брат з сястрою“, у якім выступае тыповая для фальклору стылістыка, вобразная сістэма і персаніфікацыя. Вестку аб смерці дзяцей прыносіць тут бацькам голуб. Вось яго трагічная ў сваёй вымове песня:

*— Ой ля крушні ёсць дарожка,*
*Ля дарожкі ёсць бярозка,*
*Ля бярозкі ёсць магілы,*
*У магілах — дзеткі мілы...*
*Спацькі-спяць на полі бітвы,*
*Без крыжоў і без малітвы...*
*Выюць там па іх віхоры,*
*Снег расце у гурбы-горы,*
*Гурбы-горы ў снег фарбуе,*
*І груган іх кроў смакуе.*

У вершы як бы не выступала вогуле аўтарскае „я“. Няма ў ім якой-небудзь ацэнкі, эмацыянальнай пазіцыі, абурэння. Зразумела, што ўсё гэта свядома запланавана. Аўтар не становіцца паміж чытачом і прадстаўленымі падзеямі. Хоча, каб чытач непасрэдна сутыкнуўся з чалавечай драмай і горам і каб адчуў усю іх жудасную вымову.

У вершы „То не хаты, а курганы...“ паэт малюе пейзаж, галоўнымі рэквізітамі якога з'яўляюцца крыжы і магілы. У гэтым пейзажы ёсць нешта тэатральна-жудаснае. Зоркі заахвочваюць сябе зірнуць на зямлю, на якой трыумф чалавечага глупства, эгаізму і паталогіі заквітнеў крыжамі. Паэт умела дасягае мэты. Пераконвае чытача аб недарэчлівасці і абсурднасці вайны.

№ 18 (1081) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 30.IV.1978 г.






Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok ul. Wesołowskiego 1.

Л. Сяргееў

# ДЗІЎНАЯ РЭЧ-НАСТРОЙ

Мая мама заўсёды прачыналася з усмешкай і заўсёды раніцай спявала. Тата казаў, што ў яе шчаслівы характар.

Я ж заўсёды ўставаў з „левай нагі“. Раніцай мяне дражніў бой гадзінніка, бранчанне суседа на гітары, нават пах смажанай бульбы. А ўжо хмурныя дні наводзілі на мяне такую нуду, што я доўга не вылазіў з-пад коўдры.

Неяк у адзін з такіх дзён да мяне падышла мама і сказала:

— Уставай хутчэй. Ты хацеў урокі яшчэ дарабіць. Ды і снеданне стыгне.

Крэкчучы, я злез з ложка, і, не адчыняючы вачэй, навобмацак палез да ўмывалкі. Пасля снедання я трохі павесялеў, але не зусім. Трэба было сядаць і рашаць задачкі. Паўгадзіны я сядзеў над імі, але так ніводнай і не рашыў. Настрой мой зусім папсаваўся.

Калі я выйшаў з дому, усё вакол мне здавалася непрыветным і сумным: і патрэсканыя бярозы, і перакошаны плот, і халодны ранішні вецер. Па дарозе ў школу я сустрэў Надзьку, якая вучылася на другую змену. Неспакойная Надзька была ў школе ўдзельніцай усіх гурткоў, самадзейных тэатраў і хораў. „Выдурнеяцца!“ — непрыязна падумаў я.

Я спыніўся каля дома, дзе жылі двое старых. Бабулька сядзела на ганку і выбляклымі вачыма, часта міргаючы, глядзела, як дзед саджаў кветкі. Часам яна нешта раіла яму. Дзед згаджаўся, ківаў галавой. Падышоўшы бліжэй, я пачуў, як бабуля гаварыла:

— Дзіўны ты! З таго часу, як палысеў, усё кветкі саджаеш. А ў маладосці зусім іх не любіў.

— Кінь, — адгаварваўся дзед. — Я і раней кветкі любіў. Яшчэ хлапчуком, бывала, іду з рыбалкі, абавязкова маме букецік нарву. — Дзед правёў далонню па галаве і ўздыхнуў.

— А ў мяне ў дзяцінстве, — перабіла бабуля, — былі дзве доўгія касічкі з бантамі...

„Як? Няўжо і яны былі маленькія? Дурныя нейкія“, — мігнула ў маёй галаве.

Потым я ўбачыў спераду Валодзьку з сумкай. Ён ішоў, падскокваючы. Заўважыў мяне, падбег.

— Прывецік! А ў мяне во што! — і дастаў з кішэні пішчалку. — Учора я ездзіў на рэчку, — пачаў Валодзька, прытанцоўваючы, — а там камышы! Цудоўныя пішчалкі выходзяць.

Валодзька піснуў з пішчалкі мне проста ў твар і перакруціўся на адной назе.

— Пакажы сваёй бабулі! — крыкнуў я. Мяне проста раззлаваў гэты ўласнік шчасця. Мала таго, што не паклікаў мяне на рэчку, дык яшчэ хваліцца пішчалкай.

У школу я трохі спазніўся, але, на маё здзіўленне, настаўнік нават не запытаў, дзе я быў. Ён толькі сказаў:

— Заходзь, садзіся хутчэй.

Гэта было першае, што палепшыла мой настрой. Другое здарылася тады, калі настаўнік аб'явіў, што пытацца пра задачы сёння не будзе, а пачне тлумачыць новы матэрыял. Трэцяе, і самае галоўнае, здарылася на наступных уроках, калі я атрымаў аж дзве пяцёркі. Жарты сказаць! Да гэтага я чацвёркі рэдка меў. Першую пяцёрку я атрымаў на ўроку малявання. Настаўнік даў заданне: намаляваць свята. Якім мы яго сабе ўяўляем. Я намаляваў свята на вадзе: начное мора і вялізны карабель, весь у лямпачках, са сцягамі.

— Добры малюнак, — сказаў настаўнік і прычапіў маю працу на дошку.

А потым была батаніка. І я зноў атрымаў пяцёрку.



— Сёння я раскажу вам аб раслінах-драпежніках, — сказала настаўніца. — Ці чуў хто-небудзь з вас аб іх?

— Я бачыў плывунец!

— Вельмі добра, Пеця, — сказала настаўніца. — Раскажы нам, дзе ты яго бачыў.

— Летам мы з дзядзькам былі на рэчцы, акунёў лавілі на вудачку. Тады мне і плывунец паказаў дзядзька. Ён расце ў вадзе. Увесь у вадзе. І ўвесь у пухірах. Над галавой — толькі сцябліна ды кветачка. Жоўтая такая, як сцяжок.

— Правільна! — кіўнула настаўніца. — На канцы ліісткоў пухірыкі — вялікія і маленькія.

— Пухірыкі маюць дзверкі, — працягваў я.

— Клапаны, — паправіла настаўніца.

— Клапаны, — паўтарыў я. — Ратуецца малёк ад акуня, тыцнецца ў дзверкі-клапан, яны адчыняцца і схаваюць малька. Але потым захоча той выйсці, а дзверкі яго не пускаюць. Так і з'есць пухір малька.

Вучні загулі, заёрзалі на партах, але настаўніца сказала:

— Так, так. Сценкі пухіра выдзяляюць кіслату, атруцяць малька і паступова яго стравяць. Схаваўся малёк ад акуня, але трапіў у пастку... Малайчына, Пеця!

Я ішоў па вуліцы, размахваючы сумкай. Потым дагнаў Валодзьку, але мне ўжо не хацелася на яго злавацца.

Як і раней, я спыніўся каля дома старых. Яны сядзелі на ганку і задумліва глядзелі на вуліцу. Я спрабаваў уявіць бабулю дзяўчынкай з касічкай, а дзеда — хлопцам з вудай, але адразу мне зрабілася іх шкада. Са свайго дома выбегла Надзька, пакруцілася на адным месцы і пайшла ў бок школы. Каля мяне яна спынілася, паглядзела мне ў твар і засмяялася.

— Ты чаго? — здзівіўся я.

— Смешны ты нейкі сёння! — праз смех праказала Надзька. — Вочы, як у зайца, у розныя бакі...

Тут ужо і я не вытрымаў і таксама засмяяўся.

Калі падыходзіў да нашага дома, усе людзі здаваліся мне дзіўна добрымі. Ды і сама вуліца, такая знаёмая, раптам зрабілася нейкай асаблівa мілай: і вастрадахія дамы з кветнікамі, і высокія белыя бярозы, і пабачыўшы свету плот, і нават паветра, якое пахла яблыкамі.

**Станіслаў Шушкевіч**

## НА ЗМЕНУ

*Гэй, ляці на прастор,*
*Аж да сонца, да зор,*
*Наша песня-вяснянка, лунай.*
*Гэта ж рэкі цякуць,*
*Гэта ж травы растуць*
*І прыходзіць расквечаны май.*
*Да юных прыходзіць нас*

*Светлы, цудоўны час,*
*Светлы, цудоўны май.*

*Поле, нівы і гай,*
*Працавіты наш край,*
*Расцвітайце красой-хараством.*
*І калгас, і завод,*
*Багацей з году ў год!*
*Мы на змену старэйшым ідзём.*
*І кліча, і вабіць нас*
*Светлы, цудоўны час,*
*Мы на змену ідзём.*

## КВЕТКАМІ САДЫ АСЫПАЎ МАЙ

*Кветкамі сады асыпаў май*
*І напоўніў іх пчаліным гулам.*
*Закувай, зязюля, закувай,*
*Каб зямля вясну сваю адчула.*

*Вокны насцеж раскрывае дом,*
*Дрэвы ў рэчку хочуць*
*паглядзецца*
*І сабраліся на досвітку гуртом,*
*Каб на сонцы раніцай пагрэцца.*

*У нізіне бліснула рака*
*Буйнаю срабрыстаю луской,*
*І качыным крыкам асака*

*Не дае вярбе старой спакою.*
*Разразае хмызнякі і лес*
*Стружкай тонкаю далёкая*
*дарога,*
*Падымае наквець сонны бэз,*
*Каб сказаць, што кветак будзе*
*многа.*

*Кветкамі ўкрыюцца сады*
*І напоўняцца пчаліным гулам,*
*Словы песні родзяцца тады,*
*Каб зямля шчаслівая іх чула.*





### НА СВЯТА ПЕРШАМАЯ З УЛАСНЫМ СЦЯЖКОМ

**На восьмай старонцы „Зоркі" бачыш галубка. Гэта сімвал міру. Падмалюй яго трошкі каляровымі алоўкамі, асабліва блакітам, выраж акуратна і прыклей на чырвоны сцяжок. Ці ж не прыгожа выйсці з уласным сцяжком на Першамай? Можна таксама ўпрыгожыць такімі сцяжкамі свой клас, школьны двор ці нават уваход на свой падворак. Дык за работу, пакуль час!**

ГУЛЬНІ НА ДВАРЫ

## СЯТКОЎКА БЕЗ СЕТКІ

Па сярэдзіне выбранай для гульні пляцоўкі, там, дзе павінна вісець сетка, дзвюма лініямі выдзяляюць метровую паласу. Затым складаюць дзве каманды па 12 чалавек: кожная каманда складаецца з дзвюх частак па 6 чалавек. Першыя шэсць чалавек размяшчаюцца на пляцоўцы як у звычайнай сяткоўцы, другая частка каманды становіцца праз аднаго з іншай каманды пасярэдзіне метровай зоны, там, дзе павінна вісець сетка, утвараючы такім чынам жывую „сценку". Над гэтай „сценкай" перакідаецца мяч у час гульні.

Ігракі, якія стаяць у „сценцы", накіраваны тварам у розныя бакі, кожны — тварам у бок сваіх праціўнікаў. Гэтыя ігракі не павінны выходзіць за граніцы метровай паласы, сыходзіць са свайго месца ці паварочвацца ў бок сваёй каманды. Іх задача: адбіваць рукамі мяч, пасланы праціўнікам, пры гэтым яны могуць падскокваць уверх. А рэшта правіл, амаль не адрозніваецца ад сяткоўкі.

Калі лік гульні дасягне васьмі, паўкаманды мяняюцца месцамі; тая, што стаяла на „сценцы", пераходзіць на пляцоўку, а ігракі з пляцоўкі пераходзяць на „сценку".

Калі ігрок са „сценкі" датыкнуўся мяча, не змог адбіць яго і мяч пераляцеў на палавіну сваёй каманды, то вярнуць яго на бок праціўніка трэба не больш чым за два ўдары. Ігракі з пляцоўкі не маюць права ўваходзіць на метровую паласку.

## Пазнаёмімся

Гайдучэня Марыя, вучаніца сёмага класа, Навасады 112а, пошта 16-054 Ялоўка, Беластоцкае ваяводства.

### УЗНАГАРОДЫ

**Падсумаваны конкурс „Мая мама". Найлепшыя малюнкі прыслалі Аліна Ярошук з Шастакова, Крыся Каліноўская з Ляшукоў, Крыся Салавянюк з Трывежы, Галіна Матвеюк з Міхнаўкі, Аня Кандрусік з Гарадка і Лена Герман з Хітрай. Усім пераможцам высланы кніжныя ўзнагароды.**





## ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

### КАЛЯРОВЫЯ БАРАНЧЫКІ

Уявіце сабе баранчыка з ружовай воўнай. І такі існуе! Ды не адзін, а трохтысячнае стада на ферме ў Сухандар'інскай вобласці ў СССР. Для вывядзення каляровых авечак вучоныя адабралі жывёлу з белымі кончыкамі воўны і пачалі паступова ўзмацняць гэту якасць. У выніку адбору былі атрыманы зусім новыя, „двухколерныя" каракулевыя авечкі. Цяпер ужо вядомы бронзавы, пэрлавы, янтарны, плаціневы і белы каракуль.

### СЦЕЖКА ДЫНАЗАЎРАЎ

Зняўшы слой горнай пароды, ташкенцкія геолагі ступілі на сцежку, якую пратапталі дыназаўры 140 мільёнаў гадоў назад. На вапняку добра захаваўся ланцужок слядоў. Размер „нагі" дыназаўра — 50 см у даўжыню і 45 см у шырыню. Можна разгледзець нават адбіткі пазногцяў. Крок дыназаўра — паўтара метра.

Як гэтыя гіганцкія яшчаркі, якія жылі паблізу мора, апынуліся на схілах горнага хрыбта? Вядома, дыназаўры не змянілі сваіх звычаяў — лягчэй было за мальёны гадоў марскому дну стаць гарамі. Разам з тым узняліся высока і сцяжынкі дыназаўраў.

### РЭКІ Ў ЗАПАС

Веснавы разліў Днястра больш не пагражае палям, садам і вінаграднікам. Спецыялісты Малдавіі спусцілі лішнюю ваду на 150-200-метровую глыбіню, у прыродныя падземныя пячоры. Вада па шчылінах сцякае ў гэтыя сховішчы, ачышчаючыся па дарозе ад бруду. А потым, калі ўзнікне патрэба, магутныя помпы пакліч уць яе наверх, на тыя ж палі, сады і вінаграднікі.

### КАРОВЫ ГУЛЯЮЦЬ У ФУТБОЛ

Магчыма, што Валянціне Сіманавай удасца навучыць гуляць у футбол кенгуру ці гусей. Час пакажа. Але каровы ў яе ўжо ганяюць мяч нагамі. У гэтым маглі пераканацца наведвальнікі маскоўскага цырка. Красулі пазнавалі прадметы па колеру, даставалі хустку з замкнутай скрынкі, паступова адчыняючы розныя замкі, ездзілі на самакатах, танцавалі, гулялі ў футбол і рабілі шмат іншага. Атракцыён так і называўся „разумныя каровы". В. Сімінава ўпершыню ўзялася дрэсіраваць кароў. За пяць гадоў працы яна пераканалася, што каровы вельмі панятлівыя і здольныя вучаніцы.

### МУЗЕЙ ХАРЧАВАННЯ

У сталіцы Венгрыі Будапешце ёсць музей, у якім прадстаўлены еўрапейскія стравы з апошніх 300 гадоў. Калекцыя музея складаецца з 16 тысяч прадметаў, звязаных з кухняй: мэблі, розны посуд, меню, кухарскія кніжкі, дыпломы для слаўных кухараў і іншыя.

Пры музеі працуе рэстаран.

**К. Кірэенка**

## Вясна-красна

*Плячысты дуб,*
*І рослы клён,*
*І стройная сасна*
*Шумяць-пяюць,*
*Што зноў прыйшла*
*Да нас*
*Вясна-красна.*
*Шумяць-пяюць:*
*— Вясна-красна,*
*Ты сонца, ты жыццё,*
*Паклон табе*
*За ясны дзень,*
*За новае лісцё!*
*— Паклон, паклон*
*Вясне-красне! —*
*Пяюць на ўсе лады*
*Жыты на полі,*
*І рака,*
*І пожні, і сады.*
*І спеў іх*
*Слухае вясна —*
*Зямлі адданы круг —*
*І, шчодрая,*
*Нясе красу*
*Усім, усім наўкруг:*
*Сядзібам — квецень,*
*Рэкам — сінь,*
*Палям — зялёны ўбор.*
*А нам,*
*А сэрцам маладым, —*
*Шляхі ў бязмеж-прастор.*
*Куды ні пойдзем —*
*Знойдзем мы*
*Жыцця цудоўны скарб:*
*Для песень — музыку,*
*Для спраў —*
*Святло*
*Вялікіх мар,*

*Для дружбы —*
*Шчырасць і цяпло,*
*І радасць не адну...*
*Ідзём жа*
*Песняй сустракаць*
*І мы*
*Вясну-красну.*

*Вясна-красна,*
*Вясна-красна,*
*Паклон табе, прывет!*
*Прыйшла ты ў наш*
*Любімы край,*
*Хай нам*
*Зайздросціць свет!*

## ПРАЛЕСКА

Цудоўная кветка пралеска,
Першая кветка вясны.
Як маленькае сонца на ўзлеску,
Ля бярозкі, ля елкі, сасны.
Ты глядзіш на блакітную кветку
І прыгадваеш неба блакіт,
І вясёлае сонца, што ўлетку,
Быццам тоне ў блакіце ракі.
Год нам дорыць шмат кветак
цудоўных,
Клічуць фарбамі, пахам яны,
А люблю я пралескі,
бо помню —
Гэта першая кветка вясны!

**А. Жарнасек**





**IRENA JAROCKA**

Фота па заказу

Заказвалі Валянціна Касцючук з Клейнік, Вера і Марыся Мацюк з Мікуліч.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Ш. купіў дом, у якім пражываюць два кватаранты. Яны плацілі папярэдняму ўласніку і плацяць надалей арэндную плату па 120 зл. у месяц. Ш. патрабуе ад іх, каб заплацілі за папярэднія пяць год і плацілі ў будучыні па 500 зл. у месяц, а калі ім гэта не адпавядае, каб звольнілі памяшканне. Ці прыслугоўвае Ш. права патрабаваць павышаць арэндную плату, якая была ўстаноўлена з папярэднім уласнікам, і ці прыслугоўвае яму права ў выпадку адмовы кватарантаў патрабаваць прымусовага высялення?

АДКАЗ: Калі кватаранты займаюць самастойнае памяшканне, кватэрная плата ўстанаўліваецца згодна са стаўкай, прадбачанай распараджэннем Рады Міністраў. З мэтай яе ўстанаўлення трэба звярнуцца да начальніка гміны або горада. Павышэння арэнднай платы можна патрабаваць толькі, калі б стаўка, устаноўленая ўмовай арэнды, была меншая ад стаўкі, прадбачанай у распараджэнні Рады Міністраў. Нельга патрабаваць павышэння арэнднай платы за мінулы час. Кватарантам трэба паведаміць аб абавязку вышэйшай арэнднай платы на месяц наперад і то так, каб нанава ўстаноўленая плата пачыналася з пачаткам новага месяца. Правілы гэтыя не адносяцца да субкватарантаў, з якімі арэндная плата ўстанаўляецца на аснове супольнага дагавору.

## Куток практычных ведаў

Як зварыш, так і з'ясі

# Гуску — на святочны стол

### ГУСКА ПА-ПОЛЬСКУ

На палову гускі ўзяць 2 дэкі сушаных грыбоў, валашчыну, адну цыбуліну, лыжку мукі, паўшклянкі смятаны, соль, перац. Зварыць гуску ў пасоленай вадзе, з гароднінай. Асобна ў частцы булёну зварыць сушаныя грыбы, выняць і нарэзаць іх дробна. Вывар з грыбоў (каля паўлітра) заправіць смятанай з мукой, закіпяціць. Гуску выняць з булёну, нарэзаць на порцыі, палажыць у грыбны соус на 10 мінут. Гуску падаваць з грэчневай кашай, рысам, або ячменнай кашай. На булёне з гускі варта зварыць крупнік, гародніну можна выкарыстаць на салату.

### ГУСІНАЯ ШЫЙКА ФАРШЫРАВАНАЯ

На адну гусіную шыйку (скуру), трэба ўзяць 10 дэкаў свініны, пячонку з гускі, 1 цыбуліну, 3 дэкі саланіны, палову булачкі, соль, перац, майранак. Зняць скуру з шыі. Кавалак свініны стушыць з саланінай і пячонкай. Намачыць булку ў соусе з тушанага мяса. Усё разам два разы прапусціць праз мясарубку. Дадаць соль, перац і майранак. Напхаць шыйку і варыць яе на невялічкім агні каля гадзіны, дадаючы яшчэ гародніну. Пасля выняць шыйку, палажыць на дошчачку, прыціснуць, а калі астыне, нарэзаць тонкімі скрылёчкамі.

### ГУСКА, СМАЖАНАЯ З ГАРОДНІНАЙ

Палавіну гускі нацерці соллю з часнаком і майранкам, палажыць на бляшку і ўставіць у духоўку. Праз 25 мінут дадаць да гускі нарэзаную гародніну (моркву, сэлер, парэй, цыбулю, капусту, пятрушку). Дапячы гуску. Калі мяса будзе мяккае, выняць гуску з гародніны, нарэзаць. Гародніну пасыпаць лыжачкай мукі і ў соусе закіпяціць. Падаваць мяса, аблажыўшы яго гароднінай, бульбай і салатай з чырвонай капусты.

### ГУСКА ПАД ТАМАТНЫМ СОУСАМ

На паўгускі трэба ўзяць дзве лыжкі таматнага канцэнтрата, соль, майранак, лыжачку-дзве цукру. Гуску нацерці соллю з майранкам і цукрам. Палажыць яе на бляшку і ўставіць у духоўку. Калі мяса крыху падсмажыцца, зліць частку соусу. 2-3 лыжкі яго вымяшаць з таматным канцэнтратам, лыжачкай цукру і соллю. Гэтым соусам некалькі разоў паліць гуску, запякаючы яе. Калі будзе мяккая, выняць, парэзаць на порцыі. Падаваць з бульбай ці рысам і салатай з чырвонай капусты.

**Гаспадыня**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, мяне завуць Коля і мне 23 гады. Я даўно меркаваў, каб напісаць табе.

Гэта не была такая простая справа, бо я не жыву ў Беластоцкім ваяводстве. Амаль дзесяць год таму назад выехаў я ў Шчэцінскае ваяводства. Там і жыву. На Беласточчыну прыязджаю вельмі рэдка. Раз у год або і раз у два гады. Калі я вучыўся ў пачатковай школе, часта пісаў у „Зорку", браў удзел ва ўсялякіх конкурсах. Нават выйграў два фатаграфічныя апараты „Амі" і „Смену". Я сумую па роднай зямлі і яе людзях, сярод якіх я жыў і выхаваўся. Калі прыеду ў родную вёску, адчуваю сябе вельмі добра. Мне знаёмы і прыязны тут кожны куток.

І вось маю да цябе, дарагая „Ніва", вялікую просьбу. Я хацеў бы перапісвацца з дзяўчатамі з нашага, беларускага кутка на Беласточчыне. Надрукуйце маё пісьмо-просьбу, бо яны мне даражэйшыя за ўсіх іншых дзяўчат. Буду вельмі ўдзячны за кожнае прысланае мне пісьмо.

Коля

Коля! З прыемнасцю друкуем твой ліст. Спадзяемся, што ўзрушыць ён уражлівыя сэрцы беларускіх дзяўчат і пасыплюцца пісьмы ад іх на адрас рэдакцыі, а мы хуценька перашлем іх табе на адрас, які ты падаў нам.

**Сэрцайка**

## Вер-не вер

Шаноўны Астроне! Выбачай, што я зноў дуру табе галаву сваімі снамі, але я хачу пахваліцца сваім беларускім пісьмом, хаця я ведаю, што нарабіла памылак. Сніцца мне, што я ўбачыла дзікага голуба, ён сядзіць на дрэве і буркуе. Што гэта значыць?

Тая самая Аня з Белавежы

Мне, Астроне, прысніласся, быццам я быў недзе ў полі са сваёй дачкой. І вось мы знайшлі маленькіх птушанятак. Я кажу: „Трэба іх занесці да іхняй маці, бо тая ўжо, відаць, пра іх непакоіцца. І вось мы бярэм маленькіх птушачак у рукі і нясем іх да маці, якую яшчэ трэба знайсці. Мы іх нясем, а яны становяцца нейкія дзіўныя, прыклейваюцца да нашых рук, кавалачкі іх адпадаюць. На гэтым я прачнуўся. Сон быў не зусім прыемны, асабліва ў канцы. Што ён можа прадвяшчаць?

Валодзя М.

**Тая самая Аня з Белавежы!** Ой глядзі, прыручыш ты нейкага дзікага голуба, з якім чакаюць цябе хвіліны вельмі прыемныя, а можа гэта быць нават вялікае каханне і згода.

**Валодзя М.!** Цябе ці тваю сям'ю чакала нейкая радасць, задавальненне, верыў ты ў гэта і ўлажыў пры гэтым нямала працы. Штосьці, аднак, сапсуецца, бо і з прыемных спраў, як ведаеш, часамі вынікаюць клопаты. Будзь асцярожны ў сваіх учынках!

**Астрон**

## Этнаграфічнае акенца



*Канструкцыя і народная разьба па дрэву на абліцоўцы вязі страхі з вуглом у вёсцы Баб'я Гара гм. Нараўка.* *Фота М. Гайдука.*

А. ВОІНАЎ

## КАМЕН-ДАНЦКАЯ ГАДЗІНА

ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

### ВОДГУКІ ДАЛЁКАЙ КАНАНАДЫ

У Адэсе было трывожна. Па многіх прыкметах адчувалася, што заваёўнікі праяўляюць нервознасць.

З дванаццатага студзеня ў горадзе ўвялі асаднае становішча. Прыбыло шмат войск. На скрыжаваннях вуліц і на беразе, у дотах устанаўлівалі гарматы і кулямёты. Сталі больш частымі сутычкі паміж нямецкімі і румынскімі салдатамі. Газеты друкавалі аб'явы аб тэрміновым продажы гасцініц і рэстаранаў.

Кожны дзень, кожную ноч праводзіліся аблавы, арышты, вобыскі, расстрэлы...

У той жа час магутныя тайныя сілы супраціўлення ворагу сталі больш рашучымі і актыўнымі. У порце пачасціліся аварыі. Паязды з грузам час ад часу натыкаліся на составы парожняку або прымаліся на занятыя пуці. У грузавых машын лопаліся праколатыя кімсьці пакрышкі. Адбываліся дыверсіі і на суднарамонтным заводзе. Здавалася, уся Адэса стала фронтам нябачнай вайны.

З дома ў дом папаўзлі чуткі аб тым, што з мора чакаецца дэсант савецкіх войск.

І вось у такі момант Лена, Надзя і Міша вымушаны былі бяздзейнічаць. Скончылася сілкаванне, і рацыя была мёртвая. Гэта іх вельмі засмучала. Сувязь групы са штабам арміі спынілася. Ім засталося толькі абмяркоўваць розныя планы і без канца спрачацца аб тым, як знайсці выйсце з цяжкага становішча.

Вядома, батарэі можна было купіць на чорным рынку, але гэта вельмі дорага. Міша абышоў усіх знаёмых у пошуках батарэек для кішэнных ліхтарыкаў, але кішэнных ліхтарыкаў ужо ні ў каго не было, іх забіралі пры вобысках. Заставалася надзея набыць іх у нямецкіх маракоў, з якімі Міша сустракаўся на караблях.

Аднойчы група сабралася на ваенную нараду і — каторы ўжо раз! — строілі планы далейшых дзеянняў.

— Дзяўчаткі, у порце стаіць баржа са спіртам! — сказаў Міша.

— Ці не хочаш ты яе падпаліць? — спытала Лена.

— Вядома, можна падпаліць, але гэта варварства!..

Надзя засмяялася:

— Хочаш разліць у бутэлькі і прадаваць на Прывозе?

Міша падняў палец.

— Не зусім так, але штосьці падобнае! Мы ўжо з Ткачэвічам аб тым-сім дамовіліся...

— З Ткачэвічам? — насцярожылася Лена.

— Так, з ім!

— А ты, перш чым гэта зрабіць, падумаў, ці не можа ён нас прадаць?

— Падумаў — не прадасць!

— Адкуль у цябе такая ўпэўненасць? — накінулася на яго Надзя. — Чаму ты раней пра яго нічога не гаварыў?

Міша, быццам абараняючыся, працягнуў рукі далонямі ўперад.

— Дык Лена ж сама яго выдатна ведае!

— Выдатна я яго ніяк ведаць не магу! — адрэзала Лена. — Ён дапамог мне ўладкавацца ў порт, але гэта зусім не азначае, што яму можна верыць! — расхваляваўшыся, яна ўстала, падышла да акна і вярнулася назад. — Раскажы падрабязна пра размову з ім.

Міша памаўчаў, потым сказаў:

— Дык вось, каб вы ведалі, з Ткачэвічам мяне звёў лёс, калі я ўцёк з палону, прабраўся ў Адэсу, з вялікай цяжкасцю прапісаўся, але нідзе не змог атрымаць работу. Мне пагражала адпраўка ў Германію. Вы ж ведаеце, што гэта такое. На маё шчасце, лёс звёў мяне з Ткачэвічам...

— Дзе? — строга спытала Лена. — Пры якіх абставінах?

— У маіх знаёмых. Мы разгаварыліся, і я расказаў яму пра сябе. Усяго, вядома, не сказаў, але таго, што ён даведаўся, было дастаткова, каб спалохацца...

— А ён цябе прыгрэў, — усміхнулася Надзя.

— Слухайце, дзяўчаты! — сказаў Міша. — Калі вы будзеце ставіць пад сумненне кожнае маё слова, я з вамі пасваруся... Так, ён не спалохаўся! Нават больш, узяў мяне на работу ў порт. Мяне, камсамольца, які ўтойваў, што ён ваеннапалонны. Вам гэтага дастаткова?!

— Не, зусім недастаткова! — запярэчыла Лена.

— Тады слухай далей! Я быў у яго ў сям'і, бачыў яго жонку. Сын у іх у Чырвонай Арміі. І яны аб гэтым са

# ТРЫБУНА чытачоў

## Выкарыстаць!

Паміж Крывяцічамі і сялом Мора стаіць прыгожы мураваны будынак былой пачатковай школы. Калісьці вучыліся тут дзеці з Крывяціч і Мора. Пасля рэарганізацыі дзеці з Крывяціч ад класа VI да VIII пайшлі вучыцца ў Орлю, з Мора — у Чыжы. І ў будынку вучацца толькі дзеці ад I да IV класаў. 80 працэнтаў памяшканняў будынка не выкарыстана. Адпадае штукатурка, трэба памяняць дзіравыя водасцекавыя трубы.

А можна было б зрабіць тут, напрыклад, дом пажылых людзей. Такіх людзей у навакольных сёлах многа. Што на такую думку гміна?

**Іван Кірызюк**




### КОНКУРС

*Ехаў, цешыўся й смяяўся —*
*самаход так хутка прэ.*
*У Беласток я дабіваўся —*
*граць на конкурс ў БГКТ.*

*Чы заграць я крыху здаўся?*
*Мене сталі выклікаць,*
*да таго я страмаваўся,*
*што хацеў столь уцякаць.*

*Людзей была поўна хата,*
*у далоні сталі біць,*
*а Гайдук шчэ й з апарата*
*на мяне пачаў свяціць.*

*Ано за скрыпку я узяўся,*
*каб заграць „Вішнёвы сад“,*
*як на тое папсаваўся*
*Гайдукові апарат.*

*Ну, а я ашчэ таксама*
*не у добрым быў гуморы,*
*пачаў граць „Скажы мне, мама“*
*і „Рэкі поўныя і горы“.*

*І зноў білі у далоні*
*аж па сцэне гук хадзіў,*
*я падумаў: „Чаму лоні*
*конкурс гэтакі не быў?“*

*Музыканты граць умелі*
*на ўсялякі галасы,*
*уручалі ўсім партфелі,*
*для мяне ашчэ й часы.*

*Часоў было малавата,*
*не хватала для ўсіх.*
*Чалавек я стараваты,*
*для мяне ўручылі іх.*

*Ну, вядома, як то дзеду,*
*што прыехаў ён здалёк,*
*як прыжду, то зноў паеду*
*на канкурс, на другі рок.*

*Зноў паеду, няма мовы,*
*надта ж добры там журы,*
*каб былі яны здаровы*
*і ўсе добра каб жылі!*

**Ф. Хлябіч**
Рыбакі

мной не тоячы гаварылі. Аднойчы, калі я працаваў ужо на складзе, чую страшэнны крык. Выбягаю, бачу: на прычале немец б'е нашу жанчыну. Я падбег і стукнуў яго. Ён ударыў мяне дубінкай, потым выхапіў пісталет... Тут аднекуль з'явіўся Ткачэвіч. Стаў паміж мной і немцам, адцягнуў мяне ўбок, а яго супакоіў.

Міша паглядзеў на Лену, але яе позірк па-ранейшаму заставаўся сухім і няўмольным.

— І, нарэшце, апошняе, — Міша панізіў голас, — ён сказаў мне, што пакінуты ў Адэсе для падпольнай работы.

— У гэтым ён сам прызнаўся? — перапытала Лена.

— Вядома, сам!

— А чаму? Магчыма, што-небудзь адчуў?!

— Калі хочаш — так! — адказаў Міша. — Гэта адбылося пасля таго, як мы пагаварылі з ім пра баржу са спіртам, і ён адобрыў мой план.

— Які ж у вас план? — спытала Надзя, ёй даўно хацелася задаць гэта пытанне.

— Вясёлы! — усміхнуўся Міша. — Навесці нямецкіх салдат на гэту баржу. Няхай перап'юцца. А потым паказаць туды дарогу румынам! З усяго гэтага можа атрымацца штосьці цікавае.

**(Працяг будзе)**

## Гаспадары Навасад і ваколіц вучацца

Гаспадары вёскі Навасады і суседніх вёсачак ахвотна павышаюць свае веды па сельскай гаспадарцы. Па іх уласнай ініцыятыве ад 5 снежня 1977 года ў чатырохкласнай пачатковай школе ў Навасадах вядзецца курс кваліфікаванага гаспадара. Заняткі адбываюцца тры разы ў тыдзень. Частка гаспадароў, што не мае поўнай пачатковай школы, папаўняе сваю адукацыю па праграме такой школы.

Вучаць спецыялісты розных галін: агратэхнікі, заатэхнікі, лекары ветэрынарыі, спецыялісты ў галіне будаўніцтва і гэтак далей.

На курс ходзяць гаспадары з вёсак Навасады, Пераходы, Дубіны, Звадзецкае — разам 45 асоб. Сярод удзельнікаў вылучаецца Мікалай Яноўскі з Пераходаў, які дагэтуль не прапусціў аніводнай лекцыі.

35 працэнтаў курсантаў — гэта жанчыны. А сярод іх трэба пахваліць Насцю Баўтрамюк з Навасад, якая вядзе спецыялістычную гаспадарку і ўжо два гады спецыялізуецца ў прадукцыі вархлякоў, якіх толькі за 1977 год у рамах кааператыўнай умовы прадала спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў у Гайнаўцы 139 штук. Назваць таксама трэба Марыю Якубоўскую, Веру Салавянюк і Ольгу Сакоўскую — працаўнікоў сельскагаспадарчай суполкі ў Навасадах.

**ПЭС**

## Як я памыўся ў гайнаўскай лазні

Гісторыя гэта здарылася перад святамі. Накупляў я ўсяго, што трэба, напрыносіў жонцы і пытаю, што яшчэ рабіць. А старуха дае мне чыстую бялізну і кажа: „Схадзі ў лазню, памыйся, тады пачуеш, што ўжо свята блізка“.

Не вельмі мне хацелася ісці ў лазню, бо ўжо некалькі разоў я там бываў, а памыцца ніколі добра не памыўся, заўсёды была халодная вада. Але падумаў: сёння напэўна ваду падагрэюць, бо на Гайнаўскім прадпрыемстве драўніннай прамысловасці (ім прыналежыць лазня) сацыяльныя справы высока ставяць.

Прыходжу я ў лазню, гадзіна 16, усе ванны пустыя, займаю адну, напускаю ваду, раздзяваюся і лезу ў ванну... Не помню, як я адтуль і выскачыў. Стаў і думаю: відаць, не той кран адкруціў, замест цёплага — халодны. Аднак не, проста вада ўся была халодная.

Прыходзіць працаўнік лазні, паведамляе, што цяплейшай вады не будзе. Улез я, небарака, у тую ваду ізноў і пачаў мыцца. Праз пяць мінут маё цела стала гусінае, а праз дзесяць пачало мяне трэсці. Бачу, што нічога не выйдзе, давай вылазіць, неяк адзеўся і ў ногі дахаты.

Прыходжу дахаты, замест распараны, чырвоны і чысты, я ўвесь сіні быў. Жонка толькі ахнула, сцягнула з мяне адзежу, разлажыла пасцель і ўвапхнула мяне пад пярыну. А на ногі дала бутэлькі з гарачай вадой. Сын нацёр мяне дзінатурай, дзесьці вышукалі аспірыну, сказалі мне яе есці, а мяне ўсё трасе. Калі вынікаў не далі ўсе хатнія лекі, выклікалі хуткую дапамогу.

І так я сёлетні Вялікдзень адпісаў на страты, адляжаў чатыры дні, ані выпіў, ані з'еў.

Добра было б, каб гэтак толькі я адзін выкупаўся ў тартачнай лазні ў Гайнаўцы. Але справа ў тым, што ў Гайнаўцы толькі гэтая адна лазня ёсць і мыецца ў ёй сотні людзей. Прытым яшчэ адна брыдкая справа выйшла. Менавіта, злавіў я нейкую нераспазнаную хваробу: як толькі іду вуліцай Вызвалення і набліжаюся да лазні, пачынае мяне трэсці, чым бліжэй да лазні, тым мацней. Трасучка трасе так мяне, пакуль не міну лазні. Думаю, што трэба будзе не хадзіць гэтай вуліцай.

Але яшчэ маю пастулат у адрас сацыяльнага аддзялення ГПДП: купіце ў лазню тэрмометр, мерайце тэмпературу вады, калі будзе ніжэй 40 градусаў, нікога ў лазню не пускайце. Лепш ужо быць непамытым, чым хворым.

**Вірскі**

## КАЧАЛЫ

Вось і вёска Качалы. Вёсачка сёння мала каму вядомая, забітая дошкамі, ляжыць на левым беразе рэчкі Нарвы.

Калісьці, пры санацыйнай Польшчы, вёска гэта славілася навокал тым, што амаль з кожнай яе хаты выводзіліся арэлі. Яны ганялі плыты дрэў з Лядскай і Белавежскай пушчаў уніз, аж да самае Віслы. Сёння плытоў такіх тут рэчкай не ганяюць, і вёска страціла сваё значэнне. З 18 былых гаспадароў сёння засталося толькі дзевяць, іншыя выехалі ў гарады.

Аднак палажэнне вёскі над рэчкай Нарвай прыдае ёй свой каларыт. Яна ляжыць у вельмі маляўнічым і прыгожым месцы над самай ракой. Калісьці рака цякла ля самых будынкаў і пагражала нават ім знішчэннем. Але ў вузкім месцы рэчку перакапалі і яна плыла новым рэчышчам, мінаючы вёску. На тым самым баку, што і Качалы, знаходзіцца вёска Янова, на другім беразе рэчкі — вёска Пухлы, а далей, каля 5 км, і само мястэчка Нарва (сёння гміна). Навокал гэтых вёсак і яшчэ Трасцянкі, як вокам кінуць, цягнуцца сенажаці.

Як прыгожа тут вясной, калі рэчку Нарву наведвае паводка і вада выліваецца з берагоў! Крутом на сенажацях паўстае сапраўднае мора, а як вокам глянуць — усюды вада і вада! А над вадою з крыкам праносяцца балотныя птушкі — кнігаўкі і дзікія качкі, а высока ўгары ляцяць ключом і курлыкаюць дзікія журавы і гусі...

Глядзіш, любуешся гэтай прыродай і ніяк не можаш налюбавацца. Здаецца табе, што няма ў свеце прыгажэйшага месца, як тут. А калі вада спадзе, пачынае расці буйная трава, а потым, вядома, сена — сена...

**М. Матвеюк**

## Кааператыў паслуг, ці не?

Аб камінарах „Ніва“ пісала не адзін раз. Сёння я хачу, аднак, вярнуцца да гэтай тэмы, бо і ў нас у Кузаве пачынае нарастаць пытанне: як адчапіцца ад камінараў?

А вось факты. У пачатку гэтага года з'явіўся ў нашай вёсцы камінар. Заходзіў з хаты ў хату і ад кожнага гаспадара патрабаваў грошы, то 12, то 17 злотых. Былі такія сярод гаспадароў, што адмаўляліся заплаціць. І неўзабаве даводзілася плаціць кару — 3000 зл.

Я сустрэўся з камінарам на сваёй сялібе ў месяцы лютым. Якраз займаўся сціркай. У печы гарэў агонь. А мой каханы камінар патрабаваў прачысціць комін. Пытаю я, ці можна чысціць, калі гарыць у печы. А той мне ў адказ: „Мне не перашкаджае“. Я пачаў тлумачыцца, што гэту працу немагчыма зараз выканаць. Тады камінар сказаў мне заплаціць 12 зл. Пытаю: за што? А ён: за ўваход. Не разумеючы, кажу яму — я плачу за выкананую працу, а не за ўваход. А той мне ў адказ: вы не ведаеце законаў. Я не заплаціў. Праз некалькі тыдняў атрымаў з Раённага прадпрыемства камінарскіх паслуг у Гайнаўцы напамін, што калі буду адмаўляць камінарам выконвання іх працы, пакараюць мяне карай 3000 зл. або 3 месяцамі арышту.

Я разумею законы, здзіўляюся толькі, чаму той, хто мяне павучае, сам іх не выконвае. Як можа камінар дамагацца грошай, калі не выканаў сваёй працы? Не разумею таксама, чаму камінар патрабуе розных сум.

І яшчэ адна — апошняя справа. Камінарскае прадпрыемства называецца Краёвы кааператыў камінарскіх паслуг. Але людзі самі чысцяць коміны і не просяць камінараў, каб прыязджалі з Гайнаўкі — у панядзелак да Фёдара, у сераду — да Сымона, а ў іншы дзень — да Рыгора ці каго іншага. На нашу думку, гэта можна вырашыць так: заглядаць праз нейкі час у кожную вёску і праводзіць кантроль: у каго трэба прачысціць — дык прачысціць, а ў каго не — дык не. Назойлівасць ці прымус тут непатрэбны. Тады ўсе будуць задаволены.

**Ул. Сідарук**

## Лес і арлянскія дзеці— першае месца ў ваяводстве

Дзеці любяць лес, любяць хадзіць у лес на экскурсіі, назіраць, як прабуджаецца вясной прырода, глядзяць і вырываюць кветкі, збіраюць ягады, найбольш ходзяць аднак па грыбы. Надта ахвотна вучні таксама садзяць лес. І за гэта варта іх пахваліць.

Значэнне пасадкі лесу добра разумеюць вучні арлянскай пачатковай школы. Яны ў 1976 годзе пасадзілі звыш 15 гектараў лесу і занялі першае месца ў ваяводстве сярод пачатковых школ. Былі ўзнагароджаны грашыма і дыпломам ваяводскага ўпраўлення. У 1977 годзе пасадзілі 10 гектараў лесу, сёлета хочуць пасадзіць прынамсі 10 гектараў лесу.

Калі да гэтага дадаць яшчэ збор макулатуры, вобраз працы вучняў стане выразнейшым. Даказана, што 1000 кг макулатуры ахоўвае ад вырубкі 40 елак сярэдняй велічыны. Вучні арлянскай пачатковай школы ў 1976/77 навучальным годзе здалі 2760 кг макулатуры, значыць далі жыццё 120 дрэвам. У 1977/78 годзе пакуль што здалі толькі 800 кг макулатуры. Варта запомніць яшчэ, што драўніна ў лесе прырастае слаба. За год на адным гектары лесу прырастае толькі 2 кубічных метры; пасадка лесу, яго ахова і збор макулатуры — гэта важнейшыя заданні ў жыцці арлянскай школы.

**М. Л.**

## АДГАЛОСКІ

### ТРЭБА ЯШЧЭ І ПАДВАРЫЦЬ

У „Ніве“ № 14 з 2 красавіка Міхась Хмялеўскі ў артыкуле „Майстар на ўсе рукі“ апісаў, як Хведар Вярэмчук робіць мясныя вырабы. І тут мне, здаецца, выйшла памылка. Паводле правіл, пададзеных М. Хмялеўскім у „Ніве“, зроблены сальцісон не кладуць у кіпень, але адразу яго можна есці.

Хачу сказаць на гэта, што страўнік кормніка, калі з яго робіцца сальцісон, ёсць сыры і пасля, як яго зашыюць, трэба падварыць у кіпятку, каб зварыўся страўнік. У негатаваным страўніку сальцісон не паляжыць больш трох дзён — засмярдзіцца.

Пражыў я больш як паўвеку і ні разу не давялося мне есці сальцісон у сырым страўніку.

**Э. Вайсковіч**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „ЦЕМНА НА ПЛЯЦЫ“, „Ніва“ № 11/1150 ад 12 сакавіка 1978 года.**

**Адказвае: GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA” W BIELSKU PODLASKIM.**

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Ciemno na placu” zamieszczoną w 11/1150 numerze tygodnika „Niwa” informujemy, że część żarówek oświetlenia placu Mieszalni Pasz w Widowie została uzupełniona. W pozostałych punktach oświetlenia będą podłączone świetlówki jarzeniowe.

Jednocześnie nadmieniamy, że w obecnej chwili plac Mieszalni Pasz jest dostatecznie oświetlony.

**Zarząd Spółdzielni**
**W. Wiszniewski**
**J. Chilimoniuk**

**Да заметкі „БЫЛО Б УСЁ ДОБРА, АЛЕ...“, „Ніва“ № 9/1148 ад 26 лютага 1978 года.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W NARWI.**

W związku z krytyczną notatką prasową pt. „Byłoby wszystko dobrze, ale...” zamieszczoną w 9/1148 numerze tygodnika „Niwa” z dnia 26 lutego 1978 roku uprzejmie informujemy, że odnośnie naprawy oświetlenia ulicznego w miejscowości Iwanki zostało wysłane pismo do Zakładu Energetycznego do Bielska Podlaskiego celem dokonania naprawy lamp jarzeniowych.

**Z up. Naczelnika Gminy**
**Jan Charkiewicz**
**Inspektor d/s budownictwa**

**„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruch”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.**

# Не вер слязам

На тралейбусным прыпынку стаіць дзяўчына і... плача.

— Трэба спытаць, што здарылася, — гаворыць студэнт Ваня студэнту Колю. — Відаць, у чалавека гора.

— Можа, хто з яе родных безнадзейна хворы? — спрабуе здагадацца Коля. — Ці сама хворая...

— Калі б сама была хворая, то па вуліцы не хадзіла б, — не згаджаецца Ваня. — Хутчэй за ўсё, яе абакралі ў тралейбусе.

— Ух, галовы паадрываць тым зладзюгам! — абураецца Коля. — Пэўна, абакралі. Бачыш, корпаецца ў сумцы, нешта шукае. А цяпер вунь у кішэню палезла...

— Не знайшла, — спачувальна ўздыхае Ваня. — Выцягнулі грошыкі.

— Ваня, а дзяўчына прыгожая! Давай падыдзем, мо паможам чым...

Яны папраўляюць гальштукі, прычэсваюцца, выпростваюць плечы; ні даць ні ўзяць — рыцары, гатовыя дзеля жанчыны ў агонь і ваду!

— Вас пакрыўдзіў нейкі нягоднік? — пытае Коля.

Дзяўчына круціць адмоўна галавой.

— Можа, у вас грошы ўкралі? Няма за што дадому даехаць? То мы пазычым, — прапаноўвае Ваня.

Нарэшце, дзяўчына спраўляецца са слязамі, выцірае вочы і, зірнуўшы на хлопцаў, лагодна ўсміхаецца.

— Дзякуй вам, — гаворыць яна. — Ніхто ў мяне не хворы, ніхто не пакрыўдзіў, не абакраў. Гэта, хлопцы, фарба трапіла з веяк у вочы... Нейкую дрэнную фарбу купіла, з бракам!

Хлопцы з палёгкай уздыхаюць, усміхаюцца сімпатычнай дзяўчыне і шчыра абяцаюць напісаць у газету пра няякасную прадукцыю фабрыкі...

**Васіль Хомчанка**



## ГУМАР З

### ЯК СЕЛЯНІН ПАМЕШЧЫЦУ ЧАСТАВАЎ

У адной вёсцы жыла памешчыца. Яна ніколі дома не сядзела. Усё хадзіць па вёсцы і цікавіцца, ці добрую страву гаспадыні вараць.

Аднойчы яна зайшла да селяніна, а ён якраз тоўк бульбу свінням. Пані не прывіталася, нічога нікому не сказала і цап за бульбу і ў рот. Пакаштавала і пачала пляваць:

— Ты што паганую бульбу варыш? — накінулася яна на селяніна, а ён адказвае:

— Ды чаго вы, пані, частуйцеся, свінням хопіць, хопіць і вам!



...Ён моцна стаяў на чужых нагах.

# НІЎКА



### СПОРТ

*(З „Весніка Задрыпанкі")*

Прыбыўшая напярэдадні свята ў Задрыпанку футбольная дружына з суседняй акругі правядзе з нашай „Задрыпоніяй" тры таварыскія сустрэчы, адну з якіх яна прайграе, а дзве другія закончыць унічыю.

## МІНІВЕРШЫ

### ЧАМУ СМЕЦЦЕ Ў ХАЦЕ

*— Хачу, Аўдоцця, я*
*дазнацца,*
*Чаму ў цябе так брудна*
*ў хаце?*
*— Бо мы, хоць сварымся*
*з Антосем,*
*А смецця з хаты не выносім.*

**Андрэй Лешчанка**

### КРАТОВА СЛЕПАТА

*Краты тхара атэставалі*
*І ў птушнік зноў накіравалі:*
*Майляў, ён справу добра*
*знае*
*І шматгадовы вопыт мае.*

**Пятро Перац**

### ПАДЫХОД

Вучань заатэхнічнага тэхнікума прыбыў на практыку на гадаўляную ферму. Пачаў расказваць даяркам, як правільна падыходзіць да кароў. Узяў дайніцу, падсеў да каровы, а яна яго як ударыць задняю нагою. Хлопец перакінуўся на спіну, а дайніца паляцела яшчэ далей. Аднак юнак не разгубіўся, падняўся і кажа:

— Гэта я вам паказаў няправільны падыход да жывёліны...



*У фатографа.*

### ЖОНКА, ЧАГО Ў МЯНЕ НЕ ХАПАЕ?

Аднойчы Кастусь пайшоў у цырульню пагаліцца. А каб жонка не пазнала, вырашыў з яе пасмяяцца, папрасіў цырульніка пагаліць яму бараду, вусы і галаву.

Цырульнік выканаў яго просьбу.

Калі Кастусь пераступіў парог роднай хаты, то насунуў шапку, аж на самусенькія вушы, каб жонка не пазнала, і, звяртаючыся да жонкі, спытаў:

— Ану адгадай, чаго ў мяне не хапае?!

Жонка падышла да Кастуся, зняла з яго шапку і:

— Розуму, мой мілы!..

### СЯБРЫ

— Здароў, Пятро! Даўно цябе не бачыў. Ты вельмі змяніўся.

— Перш за ўсё, я не Пятро, а Макар...

— Глядзі, то ты і імя змяніў!

### МІКОЛКА

Бацька: Цікава, як гэтым маленькім куранятам удаецца выбрацца з сваёй шкарлупіны?

Сын: А мне больш цікава ведаць, як яны туды трапляюць.



### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

* * *

Бацька звяртаецца да будучага зяця:

— Ці пакахалі б вы маю дачку, каб ведалі, што ў яе няма ніякага пасагу?

— Так, вядома, пакахаў бы, — адказаў прэтэндэнт.

— Гэтага дастаткова. Я не хачу мець ідыётаў у сваёй сям'і.

* * *

Шафёр, збіўшы пешахода, выскачыў з машыны і, спрабуючы апраўдацца перад ім, гаворыць:

— Прабачце, калі ласка, што я вас трошкі зачапіў. Ужо дзесяць гадоў, як ваджу аўтамабіль, і гэтакае здарылася са мной упершыню.

— Са мною таксама ўпершыню за пяцьдзесят гадоў, — адказаў пешаход.

* * *

Сусед гаворыць суседу:

— Ведаеш, учора ноччу да нас у кватэру забраўся злодзей:

— Ну, і што ён украў? — запытаў сусед.

— Цяжка адказаць, бо мая жонка палічыла, што гэта я вяртаюся так позна, і таму зараз злодзей знаходзіцца ў бальніцы.



*„Здаецца, ён у бацьку".*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Галіны Юзвюк з Барысаўкі змяшчаем песню*

## РОДИНА МОЯ

**Стихи Р. Рождественского**
**Музыка Д. Тухманова**

Я, ты, он, она,
Вместе целая страна,
Вместе — дружная семья,
В слове „мы" — сто тысяч „я",
Большеглазых, озорных,
Черных, рыжих и льняных,
Грустных и веселых
В городах и селах!

Над тобою солнце светит,
Родина моя,
Ты прекрасней всех на свете,
Родина моя!
Я люблю, страна, твои просторы,
Я люблю твои поля и горы,
Сонные озера и бурлящие моря.
Над полями выгнет спину
Радуга-дуга,
Нам откроет сто тропинок
Синяя тайга.
Вновь настанет время спелых
ягод,
А потом опять на землю лягут
Белые, огромные, роскошные
снега,
как будто праздник!

Припев:
Будут на тебя звезды удивлённо смотреть,
Будут над тобой добрые рассветы гореть в полнеба.
В синей вышине птицы будут радостно петь,
И будет песня звенеть над тобой в облоках
На крылатых твоих языках!

Я, ты, он, она,
Вместе — целая страна,
Вместе — дружная семья.
В слове „мы" — сто тысяч „я".
Над тобою солнце светит,
Льется с высоты.
Все на свете, все на свете
Сможем я и ты.
Я прильну, земля, к твоим березам,
Я взгляну в глаза веселым грозам
И, смеясь от счастья, упаду в твои цветы.
Обняла весна цветная
Ширь твоих степей.
У тебя, страна, я знаю,
Солнечно в судьбе.
Нет тебе конца и нет начала,
И текут светло и величаво
Реки необъятные, как песня о
тебе,
как будто праздник!

Припев.

# Курёзы

### ЦІ МОЖНА ЗАРАБІЦЬ НА ПРЫГАЖОСЦІ

22-гадовай жыхарцы Лондана Кэцці не пашанцавала. Яна працавала ў паліцыі, несла службу ў цэнтральным раёне горада, патрулiравала па вуліцах, займалася малалетнімі злачынцамі. Такая непрыглядная работа нарэшце надакучыла ёй, яна вырашыла паспрабаваць шчасця, кінуць на ігральны стол жыццця сваю прыгажосць. І спачатку фартуна быццам павярнулася да яе тварам. У конкурсе на самыя прыгожыя вочы яна заваявала першынство. Але паліцэйскае начальства выказала незадаволенасць: маўляў, паліцэйскія служакі не павінны быць прывабнымі, гэта не сумяшчальна з афіцыйным мундзірам. Іх прызначэнне ў тым, каб усе іх баяліся. Карацей кажучы, Кэцці звольнілі з працы.

Аднак прыгожыя вочы яе выручылі. Адно фотаагенцтва, даведаўшыся пра перамогу былой паліцэйскай прыгажуні на конкурсе, запрасіла яе здымацца для рэкламы багатых фірм.

### ЯК УКРАСЦІ МІЛЬЁН

Старшы сержант заходнегерманскіх ВПС Вальтэр Шміт сем гадоў вадзіў за нос вышэйшых начальнікаў і спраўна атрымліваў зарплату і розныя грашовыя дапамогі за ўяўных салдат, якія існавалі толькі на паперы. Шміт умудрыўся да таго ж прысвойваць дапамогі, якія належала атрымліваць „здаўным" па мабілізацыі, і каляндныя падарункі. Армія на паперы пад „камандаваннем" бравага сержанта выцягнула з ваеннага ведамства мільён марак.

## Смяемся з намі

**Калі цябе спытаюць, што лепш: звычайнае люстэрка ці крывое, адказвай — крывое: звычайнае паказвае тое, што ёсць, а ў крывым пакручанае можа стаць роўным.**